*Няхай жыве саюз рабочых і сялян!*

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ДВУХТЫДНЕВЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЕСКІ"

| № 8—9 | 25-га лютага 1927 г. | № 8—9 |
|---|---|---|

## СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ

Максім Багдановіч

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы;
Яны бяздольныя ўзяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны
Дзявочыя забыўшы сны
Свае шырокія тканіны
На лад пэрсідзкі ткуць яны.
А за сьцяной сьмяецца поле,
Зіяе неба з-за вакна—
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расьцьвіла вясна.
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам зьяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі.
Цямнее край зубчаты бору...
І тчэ, забыўшыся рука
Заміж пэрсыдзкага узору
Цьвяток радзімы васілька.



Зямельны пролетарыят на высьпе Ява.
Гл. арт. „У квітучым пекле".

# Паном

**Якуб Колас**

Эх, панове, „ніц не бэндзе“:
Сапсуе пан справу „вшэндзе“,
Бо занадта пан „горонцы“!
І ня ў панскіх інтарэсах
Зьдзек такі чыніць „на крэсах“,
Ня чуваны зьдзек пад сонцам!

„Дэфэнзывы“ і нагайкі,
Як было і ў Мікалайкі:
Цар—настаўнік ваш, панове!
„Пастарункі“ ды касьцёлы,
і ніводненькае школы
Беларусам у іх мове!

Уціск, гвалт і катаваньне,
Зьдзек з народу, мардаваньне,
Ідзе „польскасьць“ там нахрапам.
Як даўней, так і цяпер там
Поліцэйскі ходзіць фэртам—
Ёсьць разгон у вас сатрапам!...

Толькі-ж спосаб ваш ня новы:
Ён ужыты Мураўёвым,
Хоць ня гэтак, мо, шырока...
Ня збудуеш так дзяржавы—
Будзе панства без Варшавы,
Быў-жа прыклад не далёка.

А ўсе вашы выкрунтасы
Не пагналі-б зноў „до лясу“—
Ці той „ляе“ забыла панства?
Няхай чыніць гвалт ня людзкі
Вам „падкрулек“, пан Пісудзкі,
„Круль“ маны і ашуканства.
Вы-ж ліжэце яму пяты,
Бо паны на гэта—хваты:
Вы—рабы, або тыраны!
Вы забылі пра няволю,
Пра сваю і нашу долю,
Як сьцякалі кроўю раны...
Услаўляйце-ж вашых хватаў,
Як Мэйштовіч, такіх катаў,

Папіхайце вольнасьць ботам!
На ўсё плюйце—што законы!
Душыць вас прывід чырвоны—
У вастрог паслоў, чаго там!..
А цяпер стаўляйце „круля“:
Ён мазгі ўжо вам намуляў,
Толькі-ж „круль“ ня дасьць збавеньня...
Зьлезьце лепей, паны, з даху:
Ня збудуе панства „гмаху“
Заржавелым тым начэньнем!
Вы ня здольны жыць у згодзе—
„Мондры поляк, ды па шкодзе“.
13 лютага 1927 г.

---

# Хвароба

**Тарас Гушча**

(*Казка*)

Жыў-быў... жылі-былі.

Так звычайна пачынаюцца казкі. Пачатак хоць і стары, але добры, і ня варта ламаць галавы, каб выдумаць новы. Гэтак пачну і я—няхай дзяды ня гневаюцца на мяне. Ну, дык вось.

Жылі-былі на сьвеце два браты. Праўда—на што лгаць?—жывуць яны і цяпер, хоць і ня бачацца адзін з другім і жыцьцё іх рознае. Калі браты былі не падзелены, хадзілі яны разам на работу, у заработкі, або проста найма́ліся да людзей, бо самі яны былі бедныя, а век сядзець дома ня любілі. Раз браты, пабраўшы косы, пашлі на ўвесь дзень касіць. Касілі яны, касілі і патаміліся.

— Ну, што? — сказаў Усход:—давай, брат, адпачынем.

— Давай адпачынем,— згадзіўся Захад.

Адзін брат называўся Ўсход, а другі — Захад. Імёны іх трохі дзіўныя, бо так даўней людзі не называліся. Цяпер-жа называцца можна, як хочаш, а калі хто ня верыць, няхай сам паглядзіць у насьценны каляндар, выданы Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам на тысяча дзевяцьсот дваццаць сёмы год.

Узялі браты косы на плечы і пашлі ў цянёк, бо дзень быў гарачы. Разьвязалі торбу, зьелі па куску сала з хлебам і прыляглі, каб „сала завязалася“, прытрымліваючыся старой пагудкі: „Хто па ядзе не аддыша, таго бог за сьвіньню запіша“. За гэтым-жа кустом ся дзела Хвароба, мізэрная, згаладалая, бакі ўпалыя, рэбры тырчаць ды вочы блішчаць. Узрадавалася Хвароба, пабачыўшы, што браты моцна сьпяць, і давай яна выкрадацца, да

# Powiedż, dzie jest twòj syn?[1])

*(З жыцьця сялян Заходняй Беларусі)*

**З. Бядуля**

*Каля вёскі знойдзен труп польскага жандара. У той-жа самы час зьнік сын селяніна Барташука. Барташука-бацьку і яго дачку хапаюць польскія жандары. Бацьку б'юць да сьмерці, дачку гвалцяць...*

*Вось тая аснова, на якой выткана жахлівая аповесьць нашага слаўнага пісьменьніка Зьмітра Бядулі. Нельга спакойна чытаць гэтыя праўдзівыя радкі з жыцьця Заходняй Беларусі...*



Зьмітрок Бядуля, наш слаўны пясьняр, бэлетрысты, творы якога вядомы і ў перакладах на мовы: нямецкую, яўрэйскую, італьянскую, расійскую, польскую і інш.

— Powiedż, dzie jest twój syn?

Ужо другі дзень гэтыя словы зьвіняць у вушох старога Барташука на розныя лады. Гэтае запытаньне перакруціла, перавярнула ўсё яго жыцьцё, скрамсала на шматы тую магчымую лагоднасьць і той дабрабыт, якія так-сяк існавалі ў яго хаце, у яго вёсцы пад уладай польскай шляхты.

Маленечкі сухенькі дзядок Барташук прывык шмат да чаго, прывык асьцерагацца лішняе слова казаць, бо шляхта мела шмат вушоў: польскі настаўнік, ксёндз, поп, паліцыянт, асаднік і іншыя

[1]) Кажы, дзе твой сын?

братоў падбірацца. Гарадзь прагавіта яе вочы—паласавацца чалавечынкаю хоча. Ступае з былінкі на галінку, з галінкі—на лісток і на бедных братоў— скок! Залезла ў іх цела, іх кроўю ад'ядаецца. А браты сьпяць, ня чуюць нічога. Паспалі з гадзіну, прачынаюцца.

— Ох, штось, брат, ломіць мяне!—кажа Ўсход.

— І мне ня можацца: як-бы нешта па скуры пашорхвае, — азваўся Захад.

Павохкал і,паахкалі браты, але хварэць няма калі. А хвароба толькі пасьміхаецца, адпускае на кароткі час, ды зноў кабдзюрыкамі падрапвае.

— Працуйце, кажа, на мяне. Бо толькі за вашым гарбом і можна пажыць.

Працуюць браты і Хваробу носяць сваю. Тлусьцее Хвароба, а браты сохнуць.

— Няма, брат, здароўя! не дабрыцца нам,—скардзіцца Ўсход.

— Няма, браце, ні здароўя, ні дабра,—аклікаецца Захад.

— Трэба ратунку шукаць.

— Трэба, браце, шукаць.

Цяжкае жыцьцё пачалося для братоў: трэба было насіць у сабе Хваробу і карміць яе. Пашлі браты па знахарох, па шаптунох хадзіць. Хадзілі, хадзілі, ды нічога ня выхадзілі. Сядзіць ў іх Хвароба, сокі з іх цягне, жылы ім скручвае.

— Не, брат, — кажа Ўсход:—не памагаюць знахары.

— Не памагаюць, браце,—аклікаецца Захад.

— Папрабуем хіба да сьвятых таўканущца.

— Папрабуем, браце.

Пашлі яны па царквох ды па касьцёлах хадзіць, падлогу лбамі біць, папоў ды ксяндзоў на дапамогу клікаць. Папы-ж і ксяндзы з тэю Хваробою аднае пароды.

Адно казалі яны:

— Малецеся Богу і цярпліва нясеце свой крыж: на тым сьвеце вам усё будзе вернута і заплачана ўстокрадзь.

І расьпісвалі яны той



шпікі лавілі кожнае слова яго „бунтарскай“ сям'і.

— Powiedź, dzie jest twój syn?

Сын Барташука, восемнаццацігадовы Язэп, зьнік пасьля таго, як знашлі каля іхняй вёскі на полі між дзьвюх крушняў забітага польскага жандара. Жандара Янэка ведала ўся ваколіца, як дзікага ката, які ўжо не аднаго бязьвіннага селяніна адправіў на той сьвет, які зьдзекаваўся над старым і малым бяз дай прычыны, а проста меў ад гэтага вялікую прыемнасьць. Біў так сабе, абы біць: „а ну-ж што скажа?“

— Powiedź, dzie jest twój syn?

За апошнія два дні стары Барташук чуў гэтае запытаньне шмат разоў—мо' сто, мо' дзьвесьці, можа яшчэ болей. Як увалілася трое п'яных жандараў у яго хату, як пачалі бізунамі катаваць яго, старую жонку, маладую дачку, дык у вялізнай лужыне брудных польскіх лаянак хрыпелі, сьлюнявілі гэтыя словы. Тры разгарачаныя рылы польскіх жандараў—кожны пасвойму біў—ці шомпалам, ці ботамі, ці бізуном, кожны на сваю манеру выплёўваў, выхраківаў гэтыя словы. Жылы на ілбу вяроўкамі пляліся, вочы п'яныя сыпалі іскры, дрыжэлі падбародкі ад дзікіх крыкаў:

— Powiedź, dzie jest twòj syn?

Пад плач і лямант хатніх зьвязалі вяроўкамі старога Барташука і яго дачку. Так моцна зьвязалі, ажно косьці рыпелі і хрусьцелі. Павялі іх у паліцэйскі пастарунак.

Надзвычайна лагодны летні дзень сеяў сонечныя, яскравыя зярняты на поле і лес. Над пясчанай дарогай віселі пляцёнкамі жаўранкі. На полі дзе-ні-дзе мітусіліся людзі.

Сьлёзы ў вачох Барташука і яго дачкі высахлі, застыглі ў сухім бляску. Рукі былі закручаны за плячыма і перавязаны аднэй вяроўкай. Ісьці было нязручна, бяз вольнага размахваньня рукамі здавалася, што нясеш на нагах нейчае чужое цела. Ногі без разбору стукалі ў пяску або часам—па вострых каменьчыках. Усё вакол парабілася чужым, далёкім.

І ў старога Барташука, і ў яго дачкі думкі былі накіраваны ў адзін бок, каб хаця малады і гарачы Язэп ня выскачыў цяпер з лесу іх бараніць. Тады яго жандары на месцы прыстрэляць. Яны ўжо як-кольвечы перацерпяць...

Жандары час-ад-часу штурхалі іх прыкладамі, білі жылістымі кулакамі па твары, ад чаго ў старога Барташука твар набух, як гнілы грыб, пасінеў, заплылі вочы.

---

сьвет папоўска-ксяндзоўскімі фарбамі. Браты слухалі ды патыліцы чухалі. Рай-то рай, але-ж і крыж цягаць не вялікае шчасьце.

Не супакоіліся браты, бо цяжка стала Хваробу насіць. І разышліся яны на некаторы час, дактароў і лекаў шукаючы.

Прашло некалькі гадоў. У той час, калі Захад ужо страціў надзею вылечыцца ад Хваробы, да яго прышоў ліст ад Усходу. „Брат Захад! - пісаў Усход: - я саўсім здаровы і Хваробу сваю выгнаў. Знашліся на сьвеце добрыя, сапраўдныя дактары. Яны мне, як па пісаному, расказалі, што ў нас за Хвароба. А каб вылечыцца ад яе, трэба асьмеліцца на опэрацыю. Опэрацыя трохі балючая, але выганяе Хваробу. А самы верны струмант пры опэрацыі—доўбня і агонь. Стукнуць Хваробу па галаве і прыпаліць тое месца, дзе яна сядзела—ніколі ня вернецца. Другой рады няма, а сама Хвароба ніколі ня выйдзе. Вельмі шкода, што не магу ўсё гэта расказаць табе з вока на вока, бо паміж намі завялася новая Хвароба—Граніца. Але калі ты адважышся на такую опэрацыю, якую зрабіў я, то гэтая Хвароба прападзе сама сабою. Жадаю табе посьпеху. Твой брат Усход“.

## ЗОРКА

**Андрэй Александровіч**

Зорка, ой-зоранька
сьветла міргае.
Хуценька-скоранька
рань заіграе...

Гулкі фабрычны
гудок пранясецца.
Сілай крынічнай
работа пальлецца.

Літара к літары—
гучнае слова,
радасьцю зьвітае,
радасьцю новай.

Працай, як сонцам,
засьвеціць яскрава
радзімай старонцы
багатая слава!..

Цёмная зоранька
ціха зьнікае.
Хуценька-скоранька
рань заіграе...

— Powiedż, dzie jest twój syn?

Стары Барташук пляваў крывёю, глытаў салёную жыжу і незнаёмы цяжкі пах казытаў напухшыя ноздры. На ўсе дзікія катаваньні ў пастарунку ён маўчаў сьцяўшы зубы.

Яго дачку павялі ў другі пакой, дзе рагаталі п'яныя паліцыянты. Іхні рогат, то разьліваўся мэталёвымі трэлямі, то сыпаўся дробным шротам, то грыматаў разьюшаным конскім іржаньнем.

Барташук паў духам. Ён непакоіўся за дачку.

У гэты час ён меў адпачынак ад катаваньня. Ён падышоў да дзьвярэй і пачаў стукаць у іх пакалечанымі рукамі, крычаць нямым голасам:

— Людзі, ратуйце!

Крык з грудзей старога вырываўся чужы, незнаёмы. Ад свайго ўласнага крыку старому рабілася лягчэй, сьмяртэльная роспач як-бы супакойвалася. Супакойваючыся, ён пачаў адчуваць боль ва ўсім целе ад катаваньня. Нібы цяпер заўважыў самога сябе. Як білі гаварылі, што гэта толькі „цьвяткі", а „ягадкі" яшчэ будуць. Гэтыя „цьвяткі" давалі сябе адчуваць, ныла ўсё цела.

— Людзі, ратуйце!—крычаў стары.

Нехта за дзьвярмі скрыпнуў ключом. Дзьверы ірвануліся і стары Барташук упаў галавой якраз на грудзі бліскучага, выфранчанага жандара. Жандар адскочыў назад зьбянтэжаны ад неспадзеўкі—і Барташук, як труп, ударыўся тварам аб яго выглянцаваныя боты.

Падскочылі яшчэ двое. Барташука за ногі завалаклі назад у пакой. І, пасьля ранейшых „цьвяткоў" пачаліся „ягадкі".

— Powiedz, dzie jest twój syn?—запытаўся адзін з іх лагодным, надзіва ціхім голасам.

Барташук маўчаў, і глядзеў на іх так незацікаўлена, нібы яны былі празрыстыя, нібы ён бачыў праз іх нейкую даль.

— Адумайся, псякосьць, а то жывым адгэтуль ня выйдзеш!—казаў жандар болей строгім голасам.

Барташук стаяў, як глуха-нямы.

— Мы яго пацягнем за язык!—казаў другі жандар сіпучым зьмяіным голасам. З-пад абшлагаў сваёй курткі выняў пару бліскучых шпілек... Як спакойны хірург падышоў да Барташука, каб „пацягнуць яго за язык".

Дзікі, жудасны крык запоўніў камору, ірваўся праз вокны на двор. Барташук трапятаўся ўсім целам. Двое жандараў трымалі старога за абедзьве рукі, а трэці запускаў яму шпількі пад пазуры. З-пад чорных закарузлых мужыцкіх ногцяў расьціснутымі журавінамі капала

---

## „Няшчасны вынаходца"

*(Апавяданьне)*

**Рыгор Хвойка**

Загадчык паштовага прыпынку Капітон Сьцяпанавіч, Калючкін, хадзіў па пакоі ў вялікім абурэньні...

Ад сьцяны, да сьцяны. Крок за крокам.

Раз, два! Раз, два...

Як маятнік...

Ён думаў, і так упарта думаў...

Яго — пяцідзесяцігадовае сэрца...

Кволае сэрца паштовага ўрадоўца было ўзварушана, пакрыўджана...

Так! Яно было пакрыўджана...

І ён ня мог гэтага зносіць. Справа вось у чым:

За сьцяной, у сумежным пакоі, жыла:—„душа ягоных лятуценьняў"—Ганна Рыгораўна—малодзенькая ўдоўка...

І вось ад яе—Капітон Сьцяпанавіч, быў проста бяз розуму.

Ён пакахаў яе...

Ён аддаў ёй ўсю сваю поэтычную душу, і кволае паштовае сэрца...

Мары аб Ганначцы не пакідалі яго, і гледзячы, на: лісты, тэлеграмы, газэты ён бачыў толькі яе, яе адну, і нікога болей.

Ён кахаў яе моцна... Моцна...

Як толькі можа пакахаць, чалавек, яго становішча і ўзросту.

Часам крыўдзіўся ён на яе, але адзін зірк яе сініх вачэй, і крыўды й нездавальненьня, як ня было...

— Ганначка!--ня раз цьвярдзіў ён суседцы:—Я кахаю цябе, моцна, моцна!.. Ня так, як гэтыя малакасосы.

Рабі са мной, што хочаш! Я ўвесь твой!

Яна ціхенька ўхмылялася, нібыта з здавольненьнем або з насьмешкай. Але ён ня прыкмячаў, бо ён любіў яе.

Але цяпер справа была, зусім іншага гатунку.

Учора, зьвяртаючыся да хаты, ён убачыў, што ў яго суседкі нехта ёсьць...

Паціху, падышоў Калючкін да вакна, і зірнуў туды.

кроў на яго пакрыўленыя мазалістыя пальцы.

— Powiedz, dzie jest twój syn?

Апрача бясслоўнага крыку болі, нічога ад старога не дабіліся. Барташука цягалі за нос, за губы, білі галавой аб сьцяну. Кінулі, як мяшок, на падлогу і бліскучымі ботамі таптали: па твару, па бакох, станавіліся ботамі на горле.

Стары стагнаў з кожным разам усё спакайней... Нібы прызвычаіўся...

Барташук забыўся, дзе ён і што з ім. Болю ўжо не адчуваў. Было такое ўражаньне—нібы гарачы дождж падае—льецца на яго, лезе ў вочы, у рот, коціцца градам па нагах, па жываце. Вочы былі затуманены. У гэтым тумане мітусіўся яго сын Язэп, адзін і, здаецца, не адзін, а дваццаць Язэпаў з усіх куткоў глядзелі на яго і шапталі жаласьлівым голасам:

„Тата... татачка“... Голас быў такі жаласьлівы, што самому Барташуку чагосьці жаласна стала. Ён пачаў шкадаваць самога сябе, што ня можа выбрацца з-пад такога дажджа. З' вачэй падалі-сыпаліся старчыя слёзы.

„Тата... татачка...“—кажа сын Язэп.

— Powiedz, dzie jest twój syn?—чуе ён галасы над сабой як-бы з невядомай далячыні, аднекуль здалёку.

Постаць сына зьнікла.

Перад вачыма растуць зялёныя кругі, вырастаюць у вялізныя абручы, у скручаных баранкамі вужакаў. Коцяцца ціха па падлозе.

Вялікая роспач ахапляе Барташука.

Прапаў сын.

Якія тут добрыя людзі—занепакоіліся аб яго сыне... Яму пачынае здавацца, што сам ён, бацька, забіў яго—забіў сына роднага. Жудасьць напала на Барташука. Вочы вылезьлі на лоб. У галаве горача стала...

Барташука аблілі халоднай вадой, поўнае вядро вылілі на яго. Ён ляжаў распластаны на падлозе ў лужыне крыві і вады, дрыжучы ўсім целам.

Над ім стаялі ўспацеўшыя, разгараčаныя жандары і шапталіся паміж сабою:

— Жывуч падла!

Як санітары, жандары паднялі Барташука з падлогі, паставілі на ногі і руплівa пачалі зрываць з яго вопраткі.

Стары тарашчыў у сьцяну крывёй аблітыя вочы і апухшымі губамі мармытаў:

— Браточкі... браточкі...

Ён гаварыў гэта не да жандараў, бо на іх не глядзеў, а як-бы да людзей усяго сьвету гаварыў.

---

І тое, што ён там пабачыў, якраз і было прычынай таго, што Капітон Сьцяпанавіч сёньня гэтак старэнна думаў...

У пакоі, сядзеў яго пляменьнік—Паўлюк і аб нечым жвава гутарыў з Ганнай Рыгораўнай, і што яшчэ горш: Калючкін заўважыў і ў яе на твары здавальненьне...

Ён як п'яны адышоў ад вакна...

— „Сапернік! Сапернік!“—думка калацілася!—

І вось гэты выпадак, і пакрыўдзіў яго ўкаханае сэрца.

Цяпер, ходзячы па пакоі, ён ломаў сабе галаву над тым, як адплаціць пляменьніку. Якую помсту, выдумаць саперніку?—Галава йшла навокал. „Помста! Помста!“—не пакідала яго думка.

І вось, ходзячы, цяпер па пакоі, яму ўзышоў на памяць стары амэрыканскі раман.

Ён як ня можна лепей падыходзіў да цяперашняга яго становішча...

Перад ім паплылі, як жывыя малюнкі:

„Пакрыўджаны, ашуканы муж, маладая жонка з пекным каханкам, ноч, месяц, любошчы, пацалункі і... рогі ў мужыка.

Але амэрыканскі, вынаходчы розум знашоўся й тут...

Муж—профэсар, устанаўлівае мэханізм і пастка гатова.

А праз нейкі час,—каханак злоўлен, ён бязмоцны, прыніжаны ў руках пакрыўджанага мужа“.

О так! Ён так і зробіць... Ён паставіць пастку, хоць бяз мэханізму, (бо тут не Амэрыка, ён не янкі). Ён абойдзецца хатнімі сродкамі. У хвіліну плян быў гатоў... Помста! Помста!

Ён так захапіўся, што нават забыўся, што ніразу ён Ганне Рыгораўне мужам ня быў...

Ці-ж да гэтага яму...

Але ён не дазволіць, каб нейкі малакасос настаўляў яму рогі, яму загадчыку паштовага прыпынку... Ды ён!..

І з пэўнай думкай аб перамозе ён вышаў на вольнае паветра, пагуляць!..

* * *

Плян, які ён выпрацаваў, быў вельмі, вельмі цікавы, (прынямсі так яму здава-

— Ціха, хамская костка!—крыкнуў старшы жандар,—будзем біць вас, пакуль усе зробіцеся бандытамі!

Барташук стаяў голы, у сіняках на ўсім худым целе, дрыжаў і шаптаў:

— Браточкі... браточкі...

— Лажыся!—закамандаваў старшы жандар,—тут твая сьмерць будзе, калі ня хочаш казаць, дзе твой сын!

Барташук пакорліва лёг.

Яму на плечы палажылі дошку. Ён выпрастаўся, каб дошка лепш ляжала. Пачалі біць гірамі па дошцы. Нібы рамантавалі падлогу. Барабанілі ў такт:

— Раз! два! тры!

Глухі стук раздаваўся ў пакоі. Пад дошкаю корчылася акрываўленае, распластанае цела. Пакрыўленыя, напухшыя ад уколаў сталёвых шпілек мужыцкія пальцы хутка скакалі па бруднай падлозе, нібы перабіралі нявідочныя клавішы музычнага інструманту.

Спачатку Барташуку здавалася, што бачыць сваю хату. Вось яе вецер віхор разбурыў, панёс старую саломку на поле, разваліліся сьцены, і яго старая жонка сядзіць на печы, глядзіць на яго і рукі ламае. А вось конік ліжа яго за руку гарачым і мокрым языком, ліжа і паглядае разумнымі вачыма ў самыя вочы старому.

Пасьля Барташуку здавалася, што яго кінулі ў цёмную глыбокую процьму. Ён ляціць уніз, ляціць і ляціць—мо‘ год, мо‘ сто гадоў. Ад гэтага шпаркага лёту дух захоплівае. Замест сэрца—нейкае пустое месца. Так прыкра... Хацеў-бы скарэй грукнуцца аб дно, каб косьці ў пыл рассыпаліся, каб болей нічога не адчуваць...

Яго ў другі раз аблілі вадою. Як ачнуўся стаяла глухая поўнач. Праз жалезныя краты лез у цемру смуроднага пакою ціхі бледна-жоўты месяц.

На сьцяне люстрыўся адбітак жалезных крат—цёмныя клетачкі на дрыжучым белым абрусе месячнага зьзяньня.

Дзесьці забрахалі сабакі: адзін голас грубы з лёгкімі дрыготамі медзі, другі—цененькі, з хрыпоткай. Стары Барташук пазнаў брэх свайго Лыскі. Задрыжэла сэрца селяніна. Гарачы ком падступіў к горлу, шчэміць, душыць...

— Што цяпер у хаце робіцца? Дзе сын? Ці пусьцілі каня на начлег? І так мала сена будзе на зіму для скаціны...

---

лася). І разам з тым просты, не складовы.

У сенцах быў склеп, а дзюрка, перад дзьвярмі якраз прыхадзілася... Ясна й проста:

Яшчэ некалькі рухаў сякерай, драбіну прэч, і пастка гатова.

Ён,—пляменьнік, значыцца, пойдзе да яе ўвечары і якраз пападзе ў склеп.

А там?... А там, ён і сам ня ведаў, што будзе там!..

Але навошта клапаціцца аб тым, што будзе потым калі цяпер усё йдзе гладка.

Падышоў вечар. Той, доўгачаканы вечар, у які Капітон Сьцяпанавіч, рыхтаваўся пусьціць свой мэханізм у дзейнасьць.

Як толькі пачало цямнець, ён пашоў у вёску, але-ж хутка зьвярнуўся, адчыніў пастку, прыпаў да сьцяны надворы, пачаў чакаць!..

Марудна цягнецца час... Апрыкрала. Кідаць хацеў... Але...

Нарэшце пачуліся крокі...

Прыпаў да сьцяны паштар, упіўся ў цемру вачамі...

Нейкая высокая постаць падышла да ганку, пастаяла й нырнула туды. Ляпнулі дзьверы, а потым... Пачулася нейкая цеганіна й лаянка Калючкін кінуўся туды... Нехта стараўся вылезьці з погрэба, трымаючыся за край дзюркі... Злосьць і крыўда запоўнілі ўсю маленькую душу Капітона й паліліся цераз край. Як леў кінуўся Калючкін, і пачаў адзіраць рукі, сілючыся сьпіхнуць... Але тут і здарылася.

Недарэчнасьць!

Рукі, шукаючы грунту, схапілі за паліну нашага гэроя, і яны абодва паляцелі ў склеп, пакрываючы лаянкай ўсе іншы гукі...

А там?!

А там, завязалася бойка! страшэнная бойка, не на жыцьцё, а на сьмерць.

Цемень і лаянка, аздоблівалі стрэчу...

— Папаўся!.. Папаўся, зараза!—крычэў Капітон Сьцяпанавіч працуючы кулакамі, і ў той-жа час адчуваў, як трашчэлі яго косьці, ад кулакоў праціўніка...

Але гэтай асалодзе, быў паложаны канец...

Дзьверы з хаты адчыніліся, і адтуль вышла Ганна Рыгороўна, з лямпай у руках.

Сьвет хутка разьліўся ўва ўсе куткі, і асьвяціў пограб.

— Загінуў!—дрыжачым голасам прастагнаў бедны выходца... потым раптам, затросься.

...Перад ім быў, прыехаўшый з гораду рэвізор!..

Непакоіцца. У гаспадарчых клопатах забыўся, што ня можа варухнуцца з месца, што ўсе рэбры паломаны, што ўвесь ён у крыві... Усё заслонена перад ім—Лыска кажа яму пра хату...

Стары лавіў кожны шолах вакол. За сьцяною на гародзе шастала старая бяроза (удзень яе заўважыў), нібы зладзейка кралася да яго. За дзьвярыма чуваць былі ціхія галасы са сьмешкамі, гульлівыя галасы жандараў...

Раптам...

Нехта ў поцемках уткнуў доўгае, вострае шыла ў самае, самае сэрца Барташуку. Вушы навастрыліся. Па ўсім пакалечаным, скатаваным целе праскочылі палючыя агенькі.

Працяглы, жудасны лямант з суседняга пакою праскочыў праз сьцены, узбудзіў Барташука і вохканьнем завандраваў у месячныя кроплі летняй ночы.

Гэта войкала дачка Барташука.

„Яе цяпер гвалцяць...“ — пранеслася маланкай у мазгох старога.

Лямант раптам сьціх.

„Ёй заткнулі рот анучай...“ здагадаўся бацька.

„Анучай з яе парваных вопратак“...—Мільганула далей думка, бо ён чуў шорх, нібы тканіна рвалася.

Можа здалося яму—ён чуў сапеньнехрыпеньне жандара...

Стары хацеў рвануцца з месца—ня мог, вельмі аслабеў. Хацеў крыкнуць голасна, каб увесь сьвет пачуў— хрыпоты і бульканьне рваліся з яго акрываўленых губ.

„Далей не магу цярпець, скажу, „дзе сын“, падумаў стары. „Не: не скажу!“ і самому сабе зрабіўся ён агідным за такія думкі. „Сын павінен адамсьціць за бацьку, за сястру, за вёску...“

Барташук ляжаў у забыцьці. Лёгка было на душы. Прыемная цяплыня ахапіла ўсё цела. Толькі нейкія надакучлівыя мухі лезьлі ў ноздры, у рот, у вочы, казыталі праз меру. Мо‘ яму гэта здавалася?

Сьмешныя песьні сьпяваў Барташук. Усе на адзін лад. Адны і тыя самыя словы:

Powiedz, dzie jest twòj syn?“

Можа гэта здавалася Барташуку?

Праз жалезныя краты ўглядаецца месяц. Цень кратаў кладзецца, нібы пляцёнка з лучын, на застыўшы скорчаны труп старога селяніна.

На дварэ зацягвае выцьцё цененькімі жаласьлівымі ноткамі калматы Лыска. У яго вачох адбіваецца колер жоўтага месяца.

# СЕЙБІТ

**Віктар Гюго**

(З францускай)

Пачынае сутунець пакрысе.
Сяджу ў захапленьні на ганку.
Апошняя праца на паласе.
Вечар блізіцца бесьперастанку...

Я гляджу і прыемна мне,
Як у сьвітцы сваёй пязьменнай
Селянін рассыпае па баразьне
Поўнымі жменямі насеньне.

Яго чорная доўгая цень
Узьнялася высока, высока.
Верыць моцна, што наступны дзень
Закалосіцца жніўнім сокам.

Ён сее і сее зярнё
На бязьмежна роўных палетках,
Уперад ідзе і вяртаецца зноў—
Я гляджу, незнаёмы сьведка.

А ноч засьцілае прастор,
Заглушае дальнія гукі;
Шырацца да самых зор
Яго магутныя рукі.

*Пераклаў Ю. Гаўрук.*

# Ня трывож

**Уладзімер Жылка**

Ня трывож мае самоты
Ня збуджай пазбытых мук:
Не адкрыю я вароты
На твой позьні, слабы стук.

Не скажу—„Вайдзі!“, як раней
Як даўней, калісь даўней
Сэрца голас твой ня кране,
Не абудзіць больш надзей.

Я забыўся слоў любошчаў,
Далікатных, кволых слоў.
Там, дзе вецер сьвішча, хвошча,
Я аселішча знайшоў.

Там, дзе ў горах сьнежных стромых
Толькі песьні завірух,
Дзе шляхі адно сьвядомых,
Там дужае мужны дух.

І даведайся:—салодка
Закаханасьці палон
Замяніць на бур паводку,
На віхур свавольны звон!

Praha—1924.





У гэтым годзе 25 мая прыпадае дзесяці годзьдзе дня сьмерці Максіма Багдановіча. Тут даем яго партрэт (на права) і зьнімак з бясчаскае яго магілы (на лева) ў Ялце на якой сродкамі і загадам Сав. Нар. Кам. Беларусі пабудованы помнік паэту.

# Таварыш Сіменюк

## Кузьма Чорны

За Ваўкавыскам мы перадыхнулі пору—ноч спалі каля нізенькіх сьцен расстрэленага хутару, а днём, у трывозе наскокаў польскае кавалерыі, выкорпвалі з вытаптанай зямлі бульбу—даўно выкарпаную яшчэ з-за маладу, зялёную і смачную ад таго, што яе можна есьці. Выкорпвалі саблямі і цесакамі.

Баявая сьмерць адышла на той бок лясоў, пакінуўшы ў нас жудаснасьць цішы пасьля грому. Ад гэтага і спаў я ўночы галавою „на штабе“, і цяпер ён адцягваў мне плечы непатрэбнымі тут паперамі і прыладамі—дзьве нашы штабныя двухколкі, ад бешанае язды па каменьнях і канавах, у адну ноч сагрэлі нас радаснай цяплынёю маленькага вогнішча на балоце.

І от ціш і бульба.

У нашых сумках яшчэ недаедкі мяса, знойдзенага намі на хутары—і вось таварыш Сіменюк, два разы кантужаны на палёх Бабруйшчыны, стаіць прыцісну́ўшыся плячыма да сіневатае сьцяны хутарскога хлява і дастае з сумак недаедзеную сківі́цу і ногі. І гаворыць:

— Як я быў настаўнікам, на Смаленшчыне, дык адзін раз некалькі тыдняў ня мог есьці мяса—першы раз на жыцьці бачыў як рэзалі карову.

— А цяпер?

І трывожна сьмяюцца.

Шэсьць каняй стаіць на прывязі каля сьцяны і шэсьць абветраных людзей сядзяць з намі. І адзін, кожныя пяць хвілін папраўляе на плячы сухі, патрэсканы рамень саблі. Крывіцца:

— Ня іш тэпэр!

Сіменюк маўчыць. Стаіць ён у рваных обмотках і растаптаных чаравіках: тоўстыя порткі, вузкія яму—зьнятыя на тым тыдні з забітага штабнога пісара, якога падмяніў я—лопнулі ў каленях і відаць споднія і брудныя. Толькі гімнасьцёрка на ім новая—сіняе тонкае сукно прыгожа ахватвае яго постаць.

Ён, як хлопчык.

Учора ён дабіў раненага паляка, каб той ня мучыўся—на краю маладога бярэзьніка пастаяў над ім, скошаным кулямётам, паглядзеў на тоўстую кару сухое крыві на грудзях і пад яго вострым, на палову яшчэ сьвядомым бляскам вачэй, сякануў яго, яго ж сабляю па шыі. І пасьля сказаў:

— Тут ён так, небарак, мусіць ад учарашняга дню канчаўся...

У хляве трашчыць тэлефон. Шэсьць чалавек сядзяць на конях. Той ізноў папраўляе рамень і кідаецца пярэднім на дарогу—к лясам, дзе маўчыць фронт. Адкуль ён, што ён рабіў раней і якія здарэньні пасьля былі з ім?

І раптам ахнулі сінія лясы! Як туман яны мігаюць за палямі аўсу і пшаніцы. Наша часьць ляжыць недзе там і хто яго ведае ці гэта на той бок лясоў, ці на гэты цяпер ужо ўсё?!

Ціхі кабель нашых тэлефонаў ляжыць па разорах і ў траве.

І вось шэсьць чалавек ва ўвесь дух імчацца назад па дарозе. І толькі гэты раптоўны топат капыт іх коняй, давёў да поўнай сьвядомасьці ўсю густату схаванага ад нашых вачэй недзе наперадзе руху.

Тэлефон суха затрашчыў і раптам сьціх. І вось я, перарэзваю кабель і зьнімаю яго. Сіменюк пачаў сьцягваць кабель і пакінуў—раптам перад намі ўсё сьціхла; апошняя наша двуколка ад'яжджае назад і хутар пусьцее. Мы стаім на картапляным полі. За нашымі плячыма, мінаючы нас, наперад бяжыць рота пяхоты. Камандзір прыгнуўся і як бы недзе моцна баліць яму—так скрывіўся яго твар. І раптам насустрэч голас коннага:

— Куды гоніш! Наза-а-ад!..

Пяхота недзе зьнікае.. Раптам страшныя ўзрывы ухаюць з усіх бакоў і ўсё сьціхае. Сіменюк нудна крычыць:

— Уся сувязь зьмятушана. А зараз, што?

Як хмары зялёных мошак, чуць відзён нам па бакох рух польскае кавалерыі. Мы—чалавек двaццаць кідаемся на зямлю і ляжым. І от міма нас, нам у тыл, чэша польскі атрад—бешаны тупат коняй здаецца павіслым над намі.

Памятая пшаніца вакол.

Міма, і мы жывы; і Сіменюк здагадваецца:

— У бярэзьніку, засаду...

Так мы ляжым гадзіны і такая цішыня вакол! Па зямлі ў пшаніцы мірна поўзаюць жоўценькія мурашкі. Адна ў мяне на руцэ—што для яе я, малы і нязначны для сябе, і вялікае немая маса для яе... Пшаніца пачынае шумець.

Сіменюк садзіцца і дагадваецца, што ледзь прыметны шэры рух—далёка—наша пяхота.

І раптам роспачны жах крывіць яго твар. Вачыма паказвае ён наўскасы назад зьлева і бачу я—дзе пачынаецца нізкі бярэзьнік, сажняў за пяцьдзесят перад гэтым і зусім блізка да нас – прыціх паляк на зямлі. Дзе яго конь?

От ён варушыцца, чуць падняў галаву і прылажыў да вачэй бінокль.

— Наша пяхота адыходзіць—у немай роспача шэпча Сіменюк—у зубы польскай коньніцы... Падай знак які-небудзь, як падыйдуць—

Як бы гэта якую малітву сказаў ён.

І раптоўна ўва весь дух папоўз як ляжаў наперад. Мусіць хвілін пяць поўз ён, пасьля ўскочыў і пабег. От ён усё далей і далей. Мне відаць як паляк бачыць пяхоту і бачыць яго. І злуе...

Ён можа думае, што ў нас блізка атрады коньніцы, куды пабег Сіменюк. от ён цэліцца ў яго і страляе. Сіменюка нам ня відаць, а падняўшыся трохі відаць як далёка прыпынілася ад выстралу наша пяхота. Пасьля пашла на лева. І зьлева-ж выяжджаць пачала наша коньніца.

Над пшанічным полем сьпявалі пулі і польская коньніца сьпешна варочалася полем справа ад нас.

Пад вечар ня сьціхалі кулямёты; пяхота наша ляжала далёка перад намі. Нам назначана было ісьці на мястэчка Ражаное сьпешна сфармавацца ў новую часьць...

Таварыша Сіменюка мы ўбачылі няжывым—дзьве пулі прабілі яму—галаву і левае плячо. Сіняя гімнасьцёрка былі пад карою сухое крыві і твар выцягнуўся да вастраты—ад пакут, у якіх ён канчаўся.

Уночы мы йдзем росным гасьцінцам. Вечнае расьцьвітаньне зямлі поўніць нас салодкай трывогаю сэрца. І які ўздым ад глыбокіх сьлядоў чалавечых бур!

Мы нясём астаткі сваіх сіл у глухое мястэчка, каб там выліць іх у бурнае мора.

Таварыша Сіменюка з намі няма.

# З поэмы „І заігралі песьню“

В. Сташэўскі

I

І чутна песьня бурная
Над вогнішчам былым,
Дзе ўчора чорнай урнаю
За днямі дні плылі...
Магутны чуцен зык
Мільёны йдуць музык,
Ды музыкай калышуць сьвет.
Хістаецца стары,
Трашчаць яго муры,
У бурлівых днёх завеі.
Работнік ў дружнай грамадзе,
Тытан-народ ідзе.
З грудзей яго нясецца кліч:
Камандуй, наш Ільліч!..

II

Ліст на дрэве ня шурхоча.
Груша з яблыней маўчаць.
Вёска трэ ад жалю вочы,
Рук няма за што заццяць.
Хто-ж забудзе паноў ласку
Сад гарэлы, й каміны,
Як ў змаганьні з дзікай пляскай,
Леглі лепшыя сыны.
Сьлёз няма ўжо,—крыўды многа...
Злосьць кіпіць ў грудзёх.
Ляжаш спаць і тут трывога
Ходзіць па людзёх.
Толькі зьмружыш свае вочы,
Каб забыцца ў сьне,
Цень якаясь лезе ноччу
Жах... Аж страсяне ..
Вось ўзлятае ў крыльях белых
Кружыцца, гудзе—
Рве на часткі чыёсь цела
Стогн страшэнный йдзе.

III

На зямлі, дзе так многа учора
Пралілося дарэмнае працы
Загулялі плугі у прасторах
Сталі панскую землю араць.
Абыходзілі пахань і луг,
Сталі мераць бяз жаднага страху.
Сёньня піша старонку плуг.
А далейшы працяг—тактар.
Загудзе,—закалышуцца вежы
На пахілых вясковых капліцах;
Будзем рэзаць дзярновыя межы,
Што спалосілі нашу зямліцу.
Не загіне насеньне ў быльлі,
Не спалошча вада па разоры.
А квяцістымі стануць палі
Каляровыя узьдзеўшы уборы...

IV

Расьпісалі землю пана
Для Рыгораў і Сьцяпанаў.
А гультайскія палацы
Абярнулі ў хаты-працы.
Адчынілі школы—клюбы
Адпачынак чыста-любы.
Вось іграюць тут музыкі
І грымяць ўжо тыя зыкі,
Што вяселяць людзям душы,
Рэжуць пану сэрца й вушы.
Ды ці будзе парк маўчаць?
Засьпяваюць тут дзяўчаты,
Рэхам песьня панясецца
Стары топаль затрасецца,
Заіграюць лес і горы
Адхаднога сьлёзам гору.

V

У нядзельку, ў час пагодны
Як да ночкі так лагодна
— Пахіліўся дзень.
Па дарожцы у прысадах
І з калёрам маку ў градах
Вёска ў двор ідзе.
Разварушыць косьць ад працы,
Тупне сёньня у палацы,
Будзе рэха—звон.
Хто-ж ня будзе цяпер ласы
Па паркету лапцем ляснуць
Каб аж трэснуў ён...

VI

Па ўсёй краіне абгарэлай
Прысады новыя кладуць,
Па іх паволі, але сьмела
Музыкі волаты ідуць.
А на палёх, па іх загонах,
— Там хаткі новыя растуць,
У вадзнаку зьнішчаньня прыгону
Чырвонай кветкаю цьвітуць.
Убраўся горад ў рыштаваньні,
Грымяць і молат і тапор,
Сьвяткуе праца сваё званьне
Зладзеем ўсім наперакор.
Іграем струмантам са сталі
І трубім ў трубы завадзкія,
Хоць дрэнны строй на ўсім застал
Пакажам здольнасьці людзкія.

VII

Рубеж...
Захад, Усход...
Чырвоная, белая варты,
Час скліча вялікі тут сход.

Змаганьне тут будзе упартым.
Слупы... і расколаты сьвет.
Дзьве часткі—два вострых нажы.
Змаганцы, жыве ваш завет!
Ня будзе ў працоўных мяжы!
Гудок.
Дарога адчынена.
Там злосьць, а тут радасьць, ура!..
Мы сёньня сусьветна учынім
Заходнім рабочым парад.

—

Гэй, рабочы, гэй, ратай!
Днём Кастрычніка вітай
Свайго брата.
Дзе шмат гора і нуды
Уласьць Савецкую туды
Дружна сватай.
Грай Шатурка, Волхаўстрой*)
Сясь, Арцём і Днепрастрой*),
Марш сустрэчны.
Зыкі хай з тваіх грудзей
Пасяляюцца ў людзей
Праўдай вечнай!

*) Шатурка, Сясь, Арцём, мясьцовасьці ў нашым СССР, дзе будуюцца вялікія электрычныя станцыі. Волхаўстрой - электрастанцыя на Волхаве, Днепрастрой на Дняпру.

## Цюхцялей

*(З жыцьця Заходняй Беларусі)*

**Антон Замежны**

Вёска Рубяжэвічы ішла адным фронтам проціў вызыску і ўціску польскіх паноў. Вышчарбіўся з фронту толькі адзін Цюхцялей, ды ні то што вышчарбіўся, а хутчэй блутаўся пад нагамі.

Цюхцялей гэта мянюшка аднаго дзяцюка, які сам па сабе зусім не заслужыў, каб на ім, хлебапсую, затрымоўваць вашу ўвагу.

Але справа ў тым, што гэткіх асобаў аканчальна ня здатных да клясавай барацьбы цяпер на таптанай і гвалчанай Зах. Беларусі бадай зусім няма, не раўнуючы, як зуброў у высечанай Белавескай пушчы.

Так што Цюхцялея, як асаблівую рэдкасьць трэба было-б на добры толк вадзіць па сьвеце ды за грошы паказваць.

Старэнькага яго бацьку і малодшага брацішку-комсамольца ў вастрог запякалі, апустадомілі, аблаташылі сядзібу за падаткі, яго самога ня раз паліцыя папярыла да дзірак у скурцы, а ён табе нават пальцам у боце не паківае, а на ўсё адказвае:

— Ат, бог-бацька, калі не дапусьціць, дык сьвіньня ня зьесьць.

А далей пойдзе пераплятаць посную гутарку сваімі лёзунгамі: знаць ня знаю-ведаць ня ведаю; з кута ў кут і вечар тут; вышэй пят не падскочыш; з вады лёд, з лёду вада і г. д.

Аддана праводзіў сваю тактыку ў жыцьці—даўжэй паспаць. Тады, кажа, чалавек не бядуе і не грашыць, сон гэта лепшая радасьць у жыцьці і лепшая заплата за працу.

Колькі ўжо яго вясковыя хлопцы ня муштравалі, ня школілі, здаецца пень і той-бы навучыўся, а з Цюхцялея толку, як з гуся вада.

Пачнуць бывала яму даводзіць аб неабходнасьці змагацца з прыгнятацелямі бо інак зьнібыткуешся, неахайнасьцяй заплывеш, бы тая лужа цьвільлю, зялёнай, што ніхто нас не паратуе, калі ня мы самі, што вызваленьне ў рэволюцыі,—адным словам шмат каму гэткая гутарка бы аладкі з тукам есьці, ну, а Цюхцялей у самым баявым месцы засьнець сном праведніка.

Э, ды што казаць! Ня хлопцам гэтым раўня магутная жорсткая вызваленчая барацьба асьцервянеўшай ад вызыску і зьдзеку краіны—барацьба гэтая кумячыла і валтузіла Цюхцялея ў сваіх няшчадных абоймах—і ўсё тыя-ж вынікі: як з казла малака.

Дык нічога дзіўнага, што вёска Рубяжэвічы цярпела дадзелага Цюхцялея, як барадаўку на носе, калі яшчэ ня горш. Хай табе Рубяжэвічы ня вывесяць калі чырвоны сьцяг хоць-бы і былі важныя перашкоды,—як суседнія вёскі давай кпінуючы выторківаць.

— Ну і цюхцялейская вёска гэтыя Рубяжэвічы.

А горшай брат паняверы, як гэта ў нашыя часы і ня прыдумаеш.

Наняў раз Цюхцялея купец з мястэчка, каб пафурманіў яму ў горад. Але дзеля таго, што ў дарозе цяпер ня так ужо бясьпечна, асабліва для купцоў і ім падобным, дык нагаварыў паліцыянта.

Аднак, у лесе сустрэў іх чалавек, наставіў равольвэр і пачаў вытрасаць кішэні. У часе гэтай рэвізіі купец лучыў момант і хапіў ззаду рэвізора. На дапамогу скочыў і поліцыянт. Пачалі тузацца. Лясны чалавек быў дуж як мядзьведзь аднак, і паны не здаваліся.

У часе, калі яны ходаліся Цюхцялей вынуў торбачку з ядой і давай закладаць хлеб з салам за абедзьве шчакі.

Звалі яго на помач і гразілі паны, зваў і стукаўся да яго клясовых пачуцьцяў і лясны чалавек—усё адлетала, як гарох ад сьценкі. Цюхцялей коса толькі лыпаў вачмі ў іх бок і спакойна жаваў жвачку.

На шчасьце лясны чалавек спрытна вырваўся і панырнуў у лясным гушчары.

У мінулыя старыя часы, дык ад гэткага Цюхцялея быў-бы адзін ратунак: жанілі-б гада і канцы тут у ваду—сяк та стаў-бы чалавекам.

А папрабуй-жа ў нас цяпер жаніцца,—гэта значыць трэба падзяліцца. А што дзяліць, калі шнур далонь прыкрые. Ня гэткія, як Цюхцялей, дзяцюкі і розумам і сілай малайцы ды і то старэюць ня жэнючыся.

Зямелькі няма—жыцьця няма, радасьці няма. Вось як у нас злыбедна.

Адна ў вёсцы Рубяжэвічы была думка, адна надзея, адзін ратунак: адправіць Цюхцялея на рапарацыю ў турму. Там пасядзіць, жыва наламаюць, бальшавіком стане, у людзі выйдзе. Хлопцы, што вярнуліся з турмы дык вунь якія сталі—правадыры, вёска гардзіцца імі.

А гэта зрабіць як вокам маргнуць.

І трэба было зрабіць, бо няслава вёскі Рубяжэвічы пагражаючы расла і магла далей - болей ацюхцялеіць усю вёску.

І вось на кірмашы ў мястэчку нехта пад расьпіску перадаў Цюхцялею нейкі пачок, даў пачок, патрос і сказаў занесьці да жонкі войта.

Трапілася так, што Цюхцялей папаў на поліцэйскі пастарунак, дзе ад яго адабралі пачок, у якім аказалася комуністычная літаратура. Цюхцялей спрачаўся і не даваў ім.

— Пашлі вы к чорту, я пад расьпіску ўзяў і павінен здаць каму сказана.

Такое змаганьне Цюхцялея і ён сам, як такі зьбянтэжыў поліцыю і яна ўжо хацела яго выпусьціць, аднак, пасьля парашылі адправіць у горад у турму.

Дарэмна радаваліся Рубяжэвічы, што здалі Цюхцялея ў „унівэрсытэт" Зах. Беларусі. Па дарозе ў турму на грэблі наскочылі партызаны і забілі поліцыянта, які праводзіў Цюхцялея.

— Чакайце, куды-ж вы гэта?—узмаліўся Цюхцялей да партызанаў, калі тыя рушылі ў кусты. Што ж вы гэта, каб вам заяц полы абарваў, якую-ж вы гэта трасцу зрабілі—выходзе, што я поліцыянта забіў, чэрці вы балотныя.

— Але ж, так і выходзе, адказалі тыя.

— Дык мяне-ж расстраляюць?

— Ды ўжо-ж, расстраляюць.

— Дык што мне рабіць?

— Хадзі з намі ў партызанку.

І Цюхцялей пашоў.

Цюхцялей стаў партызанам, але дзеля таго, што ён баяўся стрэльбы, як чорт крыжа, дык прыходзілася яму пабольшасьці кухмарыць.

Бывала аднак і так, што калі яго таварышы былі ў адлучцы, дык Цюхцялей ухітраўся спытляваць усю ежу і аставіць усіх галадаміраваць.

Ня раз пагроза галоднай сьмерці і поўнае прыгод і небясьпек партызанскае жыцьцё змушалі Цюхцялея на самыя рызыкоўныя выступленьні, якія яму бадай заўсёды добра ўдаваліся. Цюхцялей памалу загараўся барацьбой, рабіў больш сьмелыя і рашучыя крокі ў жыцьці.

Аднак, стаць барацьбітом Цюхцялею не давялося. Выпала яму раз ноччу вартаваць. Улез ён на верхавіну бярозы на краю леса. Пад ранцу заснуў ён цюхцялееўскім сном і зваліўся долку ды мабыць зьвякнуўся аб камень, бо таварышы нашлі яго няжывым.





*Максім Лужанін, малады беларускі пясьняр, сябра „Узвышша“.*

## Максім Лужанін

* * *

Зноўку ціхае золата
Ў небе рассыпана
Па-над Случчынай ноч,
Па-над Случчынай зоркая ноч!
І ня верыцца, нават,
што бомы ўсхліпваюць,
што дадому вярнуўся ізноў.

Ў нашых днёх
гэтак многа вясёлковых гоманаў.
Сум у радасьці гасьне,
хоць часам імжыцца туга.
І жыцьцё аднаўляць і пазбыцца
утомы
і нязнаную далеч душой дасягаць...

Можа тысячы год
гэтак вусны шапталі
і туліліся шчыльна:
„пацалуй! абыймі!“
Гэта боль ад апошніх
вялікіх цымбалаў,
што пакрышыць дашчэнту
вярхі пірамід.

Не халодна поэту
халоднай зімою,
мы жывём у вясьне,
мы прыгожай вясною жывём,
і халодныя зімы растопім
ў сузорных навоях
і каралі ледзяныя
ў агні завіём...

Сьнег блішчыць...
Бомы звоняць і нікнуць...
Вецер сьнегу набраў,
за кустамі прыціх
і жыцьцё,
быццам песьні апошнія
першых музыкаў,
што выходзілі радасьць
палём абвясьціць.

Коні топаюць, дрогнуць...
імчацца ўсё далей...
Вочы воўчыя бліскаюць
усё гразьней і гразьней...
Вось і скончаны
сінія сьветлыя далі
і знаёмы агоньчык вітае мяне...

Дзьверы з цяжкім замком
адчыняе мне любая.
— Ты сягоньня адна?
— Сёньня, любы, адна!
За варотамі коні
ўсё тупаюць, тупаюць
і чакаюць мяне
з сініх зор да відна...
і ня знае ніхто
гэтых ціхіх спатканьняў...
Я пра гэтую любую не раскажу...
І тулюся ўсё бліжэй
і цалую каханую
і аб крыўдзе мінулай
больш ніяк не тужу...

Гэты сьнег і зіма...
Пацалункі і бомы...
І яскравая радасьць
па дарозе ў даль,
і вясёласьць інакшая
сонечны гоман—
слова разам з душою
запаліць і аддаць...

Зноўку ціхае золата
ў небе рассыпана...
Па-над Случчынай ноч,
па-над Случчынай зорная ноч!
І ня верыцца, нават,
што бомы ўсхліпваюць,
што да дому вярнуўся ізноў...

Случчына, 20 студзеня.

## ЖАРТ

### А. Наркевіч

Спытаў нейк раз Антон Хвядота,
„Чаго ў чытальню ходзіш ты?
— Ды бачыш паддае ахвоты,
Дзяўчына, ходзячы туды.
Хвядот пытае ў Антона,
—Ну, а цяпер скажы мне ты?
—Ды не сядзіцца браце дома,
Параска шляецца туды.

Баброўна, Капыльскага раёну.

# На вуліцы

## Васіль Каваль

*Наша вёска мае шмат ценявых, адмоўных бакоў. „На вуліцы" малюе цёмнае жыцьцё селяніна Данілы: невяселае дзяцінства, пабоі, жаніцьба без каханьня, самагон... Аўтару пачынаючаму „маладняк-коўцу" нельга адмовіць у здольнасьці і знаньні вёскі. На жаль аб сьветлых дадатных баках вёскі, аб новых людзях, будаўнічых соцыялізму, аб комсамольцах мы не знайходзім у апавяданьні нічога. А новае жыцьцё на вёсцы будуецца, а новыя сьветлыя галавы на вёсцы ёсьць.*

I

Дні бываюць розныя: то хмурныя, то сонечныя. Калі няма сонца—сьцелецца замурзаны туман, вісьне на бярозках шэрань і ў хаце плачуць вокны...

Жыцьцё часта складаецца, як хмурны дзень.

* * *

Аўдакімаў Даніла ня можа думаць аб гэтым, ня можа разгадаць мудрай казкі жыцьця. Ведае, што яго жыцьцё—хмурны дзень, а калі так,—дык ня сьвеціць сонца...

Прашло усё неяк дзіўна: больш дваццаці год ня думаў і цяпер ня хочацца думаць,—бо ўсяго гэтага—колькі-б ня думаў,—не разьвяжаш. Веюць на полі ветры—і няхай сябе! Жыў як і ўсе на вёсцы хлопцы; розьніўся ад другіх сваёй нязгібнасьцю: рост малы, рабы твар і няпрыгожы. Вочы глядзелі хітра, гэтага ён не хацеў рабіць, а так выходзіла. Вадзіў на начлег бацькавы коні. З начлегу забіраўся з другімі вясковымі жэўжыкамі ў чужыя сады, а ўраньні ня мог знайсьці сваіх каняй. Прыходзіліся хітраваць перад бацькам.

Бацька Аўдзей, высокі і моцны, з сярдзітым поглядам,—браў у рукі лейцы, мачыў іх вадою, і гэта было так проста: пачынаў біць з усёй ярасьцю.

— Ах, ты, вырадак...—гаварыў сьцяўшы зубы і біў мокрымі лейцамі, спусьціўшы порткі—са здаваленьнем, з больлю, а Даніла на ўсю вясковую вуліцу крычаў:

— А-ай... ратуйце... а-ай!

Тады зьбіраліся людзі. Бабы глядзелі з жахам на гэту бойку, а больш заядлыя мужчыны нацкоўвалі.

— Узьлі яму, Аўдакім, сукінаму сыну, больш, каб гарачэй было, патачкі другім, каб не даваў...

А бабы гаварылі:

— Што ты гэта—здурнеў? Ён-жа ад такіх аплявух вырасьце дурным ці глухім...

Адзін раз Аўдакім чатырнаццацігодавага сына біў п'яным, за тое, што калі праяжджала па іхняй вуліцы багатая блішчастая карэта, Даніла, пад'яжджаючы з-заду, адшрубаваў нейкі цьвік. Тады бацька біў проста кулакамі, поўху. Ад першага-ж удару хлопец зваліўся вобзем. І нечакана к моцнаму і злому бацьку ўзрасла злосьць і крыўда.

—... Твю маць ...гад...—крыкнуў Даніла, як звычайна крычаў у бясьсільлі на другіх ворагаў.—І сам спалохаўся. Шыбка ўзьняўся на ногі, пабег, а бацька, тупаючы нагамі, крыкнуў у здагонку:

— Ня прыходзь ў хату.—Заб'ю!

Абяцаў бацька і мог-бы зрабіць.

Даніла ня прыходзіў да хаты тры дні... Толькі маці шкадавала. А Даніла ня мог разумець гэтай ласкі; калі забароньвала ад бацькі—было добра. Калі крычала на яго, Даніла не ўважаў, бо яе не баяўся...

У вясковай школе прабыў толькі адзін тыдзень, зрабіўшы нешта няважнае. Вучыць літары не спадабалася, бо ні бацька, ні дзед ня вучыў іх. Валасаты поп вывеў яго са школы, а настаўнік прывеў да бацькі і той, здорова адлупцаваўшы, пасьля таго ня пусьціў...

Узімкі хадзіў на вячоркі, дзе гулялі вялікія хлопцы. У накуранай хаце, пад зыкі сапсованай скрыпкі, хлопцы з дзяўчатамі скакалі „юрку" ці „расходжага". Даніла разам з другімі падшывальцамі пхаўся ля дзьверей, бо к сталу, на кут ня пускалі. Там старэйшыя звычайна рэзаліся на грошы ў карты. У хаце стаяў дым, бруд і розныя няпрыгожыя словы, прыпраўленыя закавырыстай лаянкай. Хлопцы з расчырванелымі дзяўчатамі цісну́ліся на палу і ў сенцах. А Данілу хацелася ведаць, як гавораць палюбоўна між сабою пары, чаго плачуць ці сьмяюцца дзеўкі. Тут-жа давалі кожнаму такое няпрыгожае імя, што хацелася плюнуць проста ў вочы таму, хто гаварыў яго. Хлопцы пелі брыдкія песь-

ні, а дзеўкі адказвалі сваёй песьняй ці прыпеўкамі:

Не хварсі хварсун пракляты,
Я табой не даражу,
Прыхадзі к другой у сваты,
Ні славечка не скажу...

— Ня будзе з цябе, Даніла, пуці... Здохнеш ты дзе небудзь пад плотам, як сабака, гаварыў Данілу дзядзька, рыжы Арцём.

Даніла меркаваў пасвойму.

— Ты хоць і стары чалавек, а я цябе ня слухаю: у мяне на тое бацька ёсьць...

— Што твой бацька? Ён такі самы быў, як і ты.

А калі дарадчык заходзіў вельмі далёка, Даніла пасылаў яго к чорту— брудным, крыўдным словам...

Жыцьцё—шырока, як сьвет, вуліца вузкая. Можна ў жыцьці навучыцца рознаму. Людзі таксама ёсьць розныя: адны навучаць чаму небудзь, другія адпіхнуць, што і ня ўстанеш з зямлі.

II

Бацька Данілы—крапак. Не па росту яму, з раззлаваным тварам сядзеў на лаўцы з сваяком Арцёмам і курылі цыгаркі. Аўдзей сурова і нясkладна ў словах вінавацію Данілу:

Жулік ён—сукін сын!.. Адзін у мяне... Каб гэта быў старэйшы сын, што памёр, той-жа быў лаўкач да ўсякай работы. А гэты, як ня йшоў на службу, як быў малым, дык можна было ўламаць (а то схадзіў, пабыў недзе—і трасца яго ніякая не ўзяла!)... Падрос на бацькавай сьпіне, ўзьядранеў,—як што, дык у загрудкі...

— А ты з ім ня тое,—параіў сваяк Арцём.—Калі тое, дык штурхача яму ды вон з хаты.

— Куды яго выганіш? Ён-жа здохне, каб гэта ня бацька.

Пашкадаваў сына Аўдакім.

— Распушчанасьць пашла, скажу я табе,—з ганьбою на ўсіх людзей вылаяўся Арцём.—Мая рада табе Аўдакім, такая: жані яго ды выкідвай з хаты: усё роўна добра ня прыдбаеш ад яго.

Гэтыя гаворкі чуў не адзін раз Даніла. Было ад іх балюча. За што яны ўсе наваліваюцца на яго? Ці ён горшы ўсіх? Даніла не адзін раз бачыў, як бацька ўпрыцемку лажыўся спаць з нявесткай Хадораю. У яе было двое дзяцей ад брата і глядзела ўжо чуць ня бабай; а ў адносінах да бацькі была несьвядомая ласкавасьць.

— Жаніся ты, Даніла!—ласкава сказаў аднойчы Аўдакім, а то працаваць некаму...

Даніла нічага не адказаў.

Было ўлетку, калі вуліца доўга ня спала; гулялі позна... Вечарам Даніла хадзіў к Аўдоцьці—круглавідай і поўнай дзяўчыне. Яны сядзелі на задворку, у змроку. На вуліцы буйна шумелі і крычалі. Даніла бяссорамна прыціскаў Аўдоцьцю.

— Не чапай!—крычала яна.

— Ноччу ў сваты прыду,—заспакоіў Даніла.

Тады Аўдоцьця не пярэчыла яму; сядзелі ды гаварылі паважна пра сваё жыцьцё. Будуць яны ціхамірна жыць, любячы адзін другога. Даніла будзе шкадаваць яе. Ад бацькі ён атойдзе і ўсё жыцьцё будзе як малінавы квет.

На вуліцы крычалі, сьмяяліся, а дзеўкі пелі:

Я надзела кохту белу,
Паясок ня сходзіцца.
Мяне міленькі пакінуў,
Семера знаходзіцца...

Перад жнівам гулялі вясельле, многа пілі самагону, крычалі, лаяліся і п'яныя, бы жартамі, чуць не ламалі адзін другому галавы... П'яны Аўдакім быў рад, што сын, калі „жэніцца, дык пераменіцца", а рыжы Арцём стукаў кулаком па сталу, прыцягваў к сабе абеуруч шчасьлівага Аўдакіма ды сіпла хваліў:

Вось за што я цябе, браток, люблю... э-эх!..

— Ну, за што?—пытаў Аўдакім.

— За тое, браток, што ты-ого-о які чалавек!—крэпкі... Можаш у руках справу весьці... Любма!..

— Чаму-ж? Мы, брат Арцём, па старому-гэта мацней. Другія няхай парадкі заводзяць, няхай баяцца... А мы, значыць...

— Ого-го-мы?!

— Толькі сын збэсьціўся...

— А ты топні нагою—параіў Арцём— ня праўда, паслухае!..

— Я думаю, што паслухае!—топнуў нагою Аўдакім...

Даніла быў п'яным і не вясёлым. Тое, што вакол дзеялася не ўвашло нияк к адчуваньню бязвольнага чалавека, прашло яно бокам і не пакінула сьледу.

III

У старой хаце, куды перашоў Даніла, пасварыўшыся пасьля вясельля з бацькам,—было холадна, вокны заткнуты нейкім рызьзём. Падлогі ня было, а замест яе - сырая зямля а з бакоў з наружы падпёрта каламі...

Гэтыя дні не хадзіў Даніла да хлопцаў гуляць, як раней. Пры жніве і сенакосе цяжкая праца... Стаміўшыся хацелася цяпер думаць аб жыцьці—такім, якое яно ёсьць; слухаць вечаровыя сьпевы, ад якіх сумна станавілася.

„Чаму гэта, думаў ён, як ідзеш па лузе з касою, калі ўсе з жарам працуюць, ня хочацца гэта рабіць? Тады-ж шапаціць пад нагамі пожня, ясная пагода і ціхі вецер кудлачыць зелень травы. Суседзі косяць, расьцягнуўшы каўнер сарочкі, шырока махаючы звонкімі косамі, а Данілу хочацца легчы на пахучую траву ды праспаць у цяні да позьняга вечару... Сваю вузкую паласу ня здолеў скасіць, а бацька зваў гультаём. Як хадзіў па мяжы сьпелага жыта, ён ня чуў шэлесту яго, гэта не ўваходзіла ў істоту яго, як бацьку; нічым яно не захапляла, зямля не ліла ў грудзі вясною здаровай сілы.

Тады думаў: „як-жа пражыць?“

— Чорт яе пабяры, пражыву!

І думы ў галаве блыталіся, як у жыцьці дарогі. Ці пройдзеш па іх, ці не? А можа растопчаш лапці і назад ня вернешся?

Ласкі Данілы да Аўдоцьці былі грубымі, насьмешлівымі, агіднымі. Адносіўся да гэтага як небудзь: ня было такога, што-б яго прывязала. Хадзіў з хлопцамі гуляць, часта напіваўся самагону. Тады прыходзіў у хату і пачынаў біць Аўдоцьцю са злосьцю, сьцяўшы зубы, як бацька.

Прыходзіла Арцёміха-старая, вытрымаўшая на плячах нягоды, бітая многа раз; і прымаўляла:

— Кінь ты, Аўдоцьця, яго... На вошта ён здаўся табе? Ён-жа твайго атопка ня варты!

— Куды-ж я пайду?! — плакала Аўдоцьця.

— Ды йдзі к бацьку. Ці родны бацька прытулку ня дасьць?

Аднойчы Даніла даведаўся, што Аўдоцьця прыводзіла да сябе варажбітку. Тая доўга шаптала над вадою, кідала ў яе зельле, каб зьлячыць пачуцьцё Данілы.

Даніла пачаў выганяць з хаты,— раскідываў сундукі, адзежу; Аўдоцьця не прасіла цяпер; яна спакойна зьбірала свае спажыткі. Брат-жа. Сёмка прыехаў на падводзе - малады хлопец. Іскоса паглядзеў на Данілу і прыстрашыў.

— Я табе пакажу!

— Пашоў ты к...

На вуліцы сабраўся цэлы натоўп людзей, абступілі калёсы. Гэта здарэньне было першы раз. Шмат разоў мужыкі білі жонак, выганялі іх з хаты, потым мірыліся—і гэта было самае звычайнае... Аўдоцьця сядзела на сундуку ў калёсах сумная, худая. Як накіраваліся калёсы па вуліцы, тады ўзьняўся сабачы брэх, а бабы праводзілі Аўдоцьцю ў канец вуліцы...

Даніла з поўдня залёг на печ, каб праспаць здарэньне. На вуліцы йшоў дождж і стукаў аб вокны.

IV

Гармонік у зьнямозе заліваўся на ўсе лады. Вуліца была шумным сьвятам: крычала і буяніла.

Вёска перад калядамі спраўляла вячоркі, гульні, выпіўкі—таму й радасьць у некаторых людзей была буйнай і п'янай. Толькі пры канцы вуліцы, дзе будавалі ў хаце вясковыя сходы, зьбіралася некалькі чалавек: яны сядзелі ціха, гаварылі, нешта чыталі. І ў іх была другая радасьць, незаметная, але вялікая, поўная руху к жыцьцю...

Сьнег за вокнамі быў нязвычайна белым, а на небе многа зорак.

У сярэдзіне вёскі спраўлялі п'янку. Хата дрыжэла ад вясёлых крыкаў. Хлопцы раз'юшана крычалі... Толькі Даніла сядзеў маўклівa: ён, як усьне, успомніў, што Сёмка за нешта пагражаў яму, і скора забыўся. Адчуваў толькі, што як прадаў ён каня, дык бацька кідаўся з калом на яго, а як ня змог нічога зрабіць—плакаў...

На вечарынцы Даніла бачыў, як Аўдоцьця сядзела з другім хлопцам, той абнімаў яе, а яна не пярэчыла. Тады Даніла падышоў да Гаўрылавай Хадоры, сеў поплеч на пол ды гаварыў свае таемныя думы, што ён яе даўно любіць, каб яна кінула Сёмку, а пашла за яго. Ён цяпер адкіне ад сябе ўвесь бруд, стане такім цавярозым чалавекам, як усе добрыя людзі. Дыхаў ёй перагарам самагону, а Хадора адварачвалася, ня верыла яму. Тады ўскіпела на Сёмку злосьць.

— Ты што гаварыў?—спытаў ён сьціснуўшы кулакі і гледзячы ў упор.

— Пасьля скажу...—і Сёмка адвярнуўся, шукаючы нешта ў кішэнях кажуха.

Раптам, цераз натоўп людзей вышла Хадора на двор. Даніла прабраўся сьледам. І тут ён абхваціў яе, крычала Хадора ціха, каб не пачулі.

— Чаго ты лезеш? Шкарэда ты!..

— Маўчы.,.

Даніла ня прымеціў, як падышоў Сёмка з адным хлопцам, адчуў, як схапілі яго за плечы, нехта штурхануў і размахнуўся па галаве кулаком. Тады сам Даніла, што было сілы, схапіў узагрудкі Сёмку; і нечакаема з кішэні Сёмкі апынуўся ў руках блішчасты, халодны нож. Даніла хацеў закрычаць, толькі нешта палючае і халоднае праз сарочку разанула ў жывот.

І тады страцілася памяць. Закружылася галава, зазванілі ў суседнім сяле ў званы.

— Гэта-ж па мне звоняць—падумаў Даніла. На колькі было сілы, прыціснуў жывот рукою і папоўз з цёмнай пуні на халодны сьнег, на вуліцу.

Сьнег блішчэў рознымі колерамі, быў чысты, прыгожы. „Вось дзе я аддыхну“, падумаў.

Тады вялікая асалода ахапіла чалавека... Было ўперадзе жыцьцё,—як хмурны дзень: усё ]яно перадумалася цяпер, узьнікала ў ваччу і зноў зьнікала, замятаючы плямы. Нечыя цьвёрдыя крокі таптаді сьнег, галасы былі маруднымі; нехта схіляўся, гаварыў ціха.

— Жыў!—крыкліва запэўніў людзей нейкі чалавек.

Толькі мяцеліца круцілася, як п‘яныя на вечарынцы—навявала сумную дрымоту. Вецер галасіў—ці то аб загубленым жыцьці, ці-то аб вялікай жыцьцёвай праўдзе. Вёска ўжо спала, толькі вечарынка гудзела роем...

У жывым яшчэ целе, як нясьлі некуды людзі, узьнікла вялікая злосьць да ўсіх людзей, а сказаць пра гэта ня можна было, бо ў галаве была неразгадана-заблытаная казка, як хмурны дзень.

6-II—27 г.—Менск.





Сяргей Дарожны

# Горад

Горад, горад! Маўклівая рань,
Правадамі над вокнамі струніцца
Ці то звоняць сьнягі, ці ліецца зара
На вясёлыя асьнежныя вуліцы.
Сіні дзень мой сягоньня ў пялёстках
Над вакном, што з аднэй ваканіцай,
Што-ж магло мне іначай прысьніцца
Як бялавае поле і вёска.
Часта помню я, часта помню,
Калі з песьняю ў соннай траве,
Рэжуць косы пунсовыя промні,
Каб заўсёды наш край ружавеў.
Каб заўсёды там жыта гайдалася
І зьвінелі вятры над вадой.
Мо з таго мне часамі ў далях
Льсьніцца поле і сьнежны спакой.
Горад любы мой, горад у песьнях
Я прыйшоў к табе многа спазнаць,
Як інакш будзе край мой Палескі
Табунамі калосься іржаць.
Ад таго я ўстаў сёньня рана
Сустракаць мой пялёсткавы дзень,—
Каб над кожным высокім курганам
Шалясьцела жалезная цень.
Першы раз я складаў гэтак песьню
Першы раз бачу гэткую рань...
Ах, Палесьсе, асьнежнае, Палесьсе!
Дарагі мой, балоцісты край.
Горад, горад! Маўклівая рань,
Правадамі над вокнамі струніца
Ці то звоняць сьнягі, ці ліецца зара
На вясёлыя, любыя вуліцы.

# У вёсцы

**Кляшторны**

Я зноў у вёсцы,
Ружай пунсавее
У марозных далях
Сонечны закат.
На тысячу гітар
Вясёлыя завеі
Зьвіняць над занізьзю
Прынізістых прысад.
У хаце пыл,
У хаце многа лому
Скрыпіць мароз
У сьлясаках дзьвярэй;
Пятух малоціць
Старую салому
І топча па чарзе
Прысадзістых курэй.
У душы і сум,
І слодыч успамінаў.
Люблю драмаць
Пад шум верацяна.
Люблю як чэшуць
Голую асіну.
Марозныя вятры
Ля цёмпага вакна.
Але любіць,
Любіць з такім запалам
Усё тое, што любіў
Я болі не магу...
. . . . . . . . . . .
Зара пунсовай
Дрожжу дагарае
На мармурава—
Срабрыстым сьнягу. .
Гусьцее змрок...
А на камінку ўжо з прыветам
Карчы сасновыя
Пылаючы гарадь...
Бяру у рукі
Новую газэту
І пачынаю
Голасна чытаць.
А мой сусед
Зяўнуў сабе па волі,
І кажа так:
(Скрозь драмату і сон).
— Скажы, браток,
Ці скора нам дазволяць
Свабодна ціснуць
З брагі самагон?
А без таго
І сьвята, бач, ня ў сьвята.
Дзяўбнеш паўчарачкі
Сьвятлей на сьвеце жыць.
Хоць і жывём
Мы, братка, не багата,
А ўсё прыемна
Горла прамачыць...
А ў хаце пыль,
А ў хаце многа лому,
Скрыпіць мароз
У сьлясаках дзьвярэй...
Пятух малоціць
Старую салому,
І топча па чарзе
Прысадзістых курэй.
—Твая, Максім,
Хацёнка састарэла,
Даўно пара
Другую будаваць...
— Зямля, дружок,
Зямля, брат, адалела
Няма калі
Ні сеяць ні пахаць.
І нашы рукі,
Братка, не жалеза...
Вышэй за пупа
Нельга, брат, скакаць.
Пяць дзесяцін
Я атрымаў прырэзу,
Вось гэтай пяцярнёй
Спраўляйся загараць.
Тут не далёка—
Хутар ёсьць „Застава"
Там нейкая арцель,
На неякіх паях;
Вось там, дружок,
Зусім другая справа,
А наша справа, братка,—
Шваx.
Варона нас
Яшчэ не церабіла
А ты патопчаш
Пяцера лапцей.
Пристанеш сам,
Пристане і кабыла,
Пакуль у лозе
Змоўкне салавей.
Нявылязьці з лапцей,
Ня вылязьці з саломы,
А паглядзіш зямлі
Хоць гаць гаці...
Аддам налета
Сына ў агрономы
Няхай павучыцца

Як сьцежкі церабіць"...
Бягуць часы...
Даўно з усьмешкай ветлай
Патух за гаем
Сонечны закат,
На тысячу гітар
Вясёлыя завеі
Зьвіняць над занізьзю
Прынізістых прысад.
У душы і сум,
І слодыч успамінаў,
Люблю драмаць
Пад шум верацяна,
Люблю як чэшуць
Голую асіну
Марозныя вятры
Ля старага вакна...
На хвалях дзён
Плыве жыцьцё уперад,
Гадзіны вёсламі
Стрыгуць сівую гладзь.
Няма стыхій,
Няма такое моцы,
Каб парусы жыцьцёвыя стры-
маць.
Максім, Максім!..
Часы як хвалі валюць,
Пабітыя шляхі
Нам не таптаць узноў...
Цябе заезьдзіў плуг,
А сыну з с ніх даляў
Вясна сталёвых
Гоне рысакоў...

Вёска Парэчча, студзень 1927 г.

---

# „На тым баку“

(*Апавяданьне*)

**Юрка Лявонны**

Спакойна-мудрае жыцьцё айца Марціна падыходзіла да нямінуючага канца.

Нават не „падыходзіла“, а падышло і застанавілася на мёртвай кропцы, як вус гадзіньніка на старой пажарнай каланчы.

Не краналася, ня рухалася...

Калісьці айцец Сенажэцкі, пасьля сканчэньня Варшаўскай Ёзуіцкай Калегіі, быў прыкмечаны „вышэй стаячымі“.

За яго мяккі голас, нейкую асабістую нячутную постаць і веды па тэолёгіі— яго адрозьніваў ад іншых нават сам рэктар—ягомасьць, пан біскуп.

Сенажэцкі марыў тады, пад рознымі ўплывамі збоку аб лілёвай біскупскай сутане, катэдры... а там—ці далёка і да чырвонай шапкі кардынала?

Праляцелі гады...

Сканчэньне калегіі, пасада...

Адбылася вайна, потым—„пшэклента“ рэволюцыя і як сынтэз усіх няшчасьцяў —„большэвіцы“...

...Айцец Марцін сядзіць у скураным крэсьце ля вакна маленькага доміку, што грыбам пріляпіўся да касьцёлу.

Воля грамадзкага жыцьця загнала яго сюды, у маленькі, заштатны гарадок; прымусіла сядзець, пазіраць і дзівіцца.

У яго ўзялі большую частку яго ўплыву, непарушнага аўторытэту і чыста-матар'яльнай маёмасьці. Але не маглі забіць у яго ўспамінаў...

І яны зараз імкнуцца некуды, выбухаюць.

Ад іх—на худым, з войстрымі касьцьмі, твары айца Марціна кладзецца адбітак задуменнасьці аб страчаным харастве.

За афарбованай сьцяной ружавее майскі вечар.

У паветры—звонкая цішыня...

Хутка—дзевяць...

Заўтра—сьвята... „Маёва набажэнства“.

Пан Фэлікс—вікары і правая рука Сенажэцкага—як відаць добра памятае аб гэтым...

З касьцёлу пачыняюць ляцець, даганяючы адзін другога, роўныя гукі звону.

— Длімм... Бом!... Длімм... Бомм!.. Бомм... Памірае ружовы вечар.

Памірае ў прытомных гуках медзь на званьніцы. Пусьцеюць даўгія цені і разьліваецца па невялічкім, суровым пакою ціхая маркота.

— Свенты ойчэ!... Гэта звоняць да касьцёлу...

На парозе стаіць невялічкага росту жанчына ў чорнай хустцы.

Маленькая жанчына, далей, рухаецца да ксяндза.

— Ужо?... Ірэнка... Ведаеш... Мне зараз ахвота пагаварыць з табой аб мінулым...

Ірэнка, па знадворнаму выгляду, можна даць гадоў 30. Шчупленькая фігурка, малады голас.

А прыгледзіўшыся бліжэй-разгледзіш, што жоўты твар яе перарэзаны сеткаю зморшчынак, тоненькіх і нязьлічаных.

Апошняе надае пані Ірэнцы падабенства да эгіпэцкай муміі, якая цудам жыве ў гэтыя дні...

— Аб мінулым... Ці варта?... Яно так далёка, Марцін!...

Хай сабе далёка!...

Айцец Марцін добра ўляўляе сабе, як дзесяць гадоў таму яны кахаліся з Ірэнкаю... Сям'я брата Сенажэцкага—Альфонса.

Сястра жонкі апошняга—прыгожая, нясупынна-вясёлая Ірэнка Дамброўская...

...Ой, навошта рассыпаецца канёўным срэбрам дзявочы сьмех, калі трэба хаваць палкае сэрца пад сутану?..

Навошта разгараецца агонь ў жылах, калі яго трэба тушыць і агортаваць мокрым туманам холаду?...

Але—ці стрымаеш павадкі, калі яны імклівяць моцнымі хвалямі наперад?!...

І яшчэ памятае айцец Марцін...

Пульхныя вечары, хмялёвую альтанку ў Альфонсавым садзе і палкія пацалункі...

Потым—змаганьне з сабою ва імя догмату сьвятое рымска каталіцкае царквы—„аб непагрэшнасьці і ўстрыманьні“ ў якой праз два гады зноў перамагае чалавек.

Пасьля каханьнем асмужаных вечароў —засталіся рэальныя вынікі...

Гэта той самы хлапчук—Бронек—які жыве ў Юліі Львоўны, сястры Ірэнкі Дамброўскай, экономкі „пана ксяндза“...

Бронек, які вучыцца ў 3 й школе і акуратна наведваецца ў піонэратрад.

У касьцёл усё-ж ткі трэба йсьці...

Айцец Марцін адчувае гэта ўсёй істотаю, але яго ня цягне туды, як раней.

Бо малюнак, пры ўваходзе ў касьцёл, будзе ня зусім прыемны.

Пяць-шэсьць высахшых старых бабулек, заўсёдны надведвацель пан Аўгусьцін з Радамлю—чакавек у суконным капялюшы, з тоўстым носам—ды нязьменны Фэлікс—гэта ўсё, амаль, браты ў Хрысьце, памятаючыя аб доме божым..

...Міма беланогіх дзяўчат — бярозак цьвінтару па мураваных, шэрых плітах зьвініць гулкім крокам постаць айца Марціна.

Вось ён у прытворы, вось сухі твар „першаезуіта“ — Ігната Лайёлы — глядзіць на яго, няміргаючы, цяжкім поглядам.

„Dominus vobiscum!“ – праз пяць хвілін абвяшчае з амвону ксёндз... На ім—прыгожае аблачэньне.

Але крыж у кветках, вышыты на сьпіне расы, наводзіць на чорныя падумкі аб могілках, з раскошным помнікам ружовага мармуру...

Заліваюцца на хорах дзявоча-маладыя галасы паненак з мясцовай шляхты

На момант іх пакрывае мэлёдычнае сапрана Юзі дачкі пана Фэлікса.

Гудзіць шмелем орган, загараюцца жоўтыя сьвечкі ля патухшых твараў „сьвенцейшых“, і ў касьцёле разьлягаецца пах тонкага ладану і няўхільнага паміраньня...

Пасьля вячэрні, да Сенажэцкага, хвалюючыся, падышоў пан Фэлікс.

— Сьвенты ойчэ... Я...

— Ва імя ойца, сына і духа сьвентэго. Амэн... Далей?..

— Сёньня, праходзячы цераз плошчу, я ўласнымі вачыма бачыў, як Бронек... У айца Марціна няма сакрэту ад старага сябра.

— Ну, і што ж ён?...

— ...паперадзі гэтых галаштанных бег і біў у маленькі барабан.

А за ім—другія чырвоныя гальштукі —гэтыя языкі дз'ябла!...

...У двары айцец Марцін, нават, не пажадаў перад сном пабачыць Ірэнку...

— Усё адно... паўтараў ён: гэта—пачатак канцу... Чырвоныя гальштукі... Ірэнка.. шапка кардынала... Трэба канчаць хутчэй!...

У віскох—настойна біліся прагныя жылкі. Усю галаву ламала, як сьціснуўшы зялезнымі абручамі.

І рэзала пачуцьці думка:

— Няма для чаго жыць...

Яны прышлі ў свой час, а я...

Айцец Марцін, памятаючы, штоў Ірэнкі ёсьць у шафе поўная шкляначка стрыхніну—ад пацукоў — цяжка падняўся з крэсла і на пальчыках прашоў у дзьверы па суседзтву.

...Агледзіў бутэлечку белага шкла з шкляным-жа коркам, адчыніў, панюхаў і спакойна пераліў усё, да апошняй кроплі, сабе ў рот...

25 – 30 лістападу 1926.

# Каляды

**Г. Корсік**

*(Адрывак з роману „Вескор“ VIII разьдз.)*

*Да савецкага будаўніцтва здараецца прымазваюцца людзі нічога агульнага ня маючыя з комунізмам. Да часу яны могуць рабіць свае цёмныя справы і захлынацца ў самагонцы. Гэткія—Вострыкі і розныя Касьцюкі. Яны вядуць кумпанію з недабітымі панамі і падпанкамі. Таго, хто высьвятляе іх крымінальную дзейнасьць, яны гатовы зьнішчыць...*

*Хай нашы чытачы самі судзяць паколькі Г. Корсік, пачынаючы наш бэлетрысты, справіўся з сваёй тэмай.*

... Днём і ноччу дыміліся самагонныя заводы. Усё „актыўнае“ вёскі рыхтавалася ўрачыста спаткаць вялікае сьвята. Загадчык земаддзелу—Вострык, як ніколі быў сёньня ў добрым настроі. Глыбока засунуўшы ў кішэні рукі, шпаркімі крокамі бегаў па пратоптанай у панскім садку дарожцы. Наступаючае сьвята з сваімі бурлівымі настроямі, хвалявала ўсю яго істоту... Нешта салодкае, прыемнае падступала да горла й прыемна казытала. У марах стараўся ўявіць прывабны жаночы вобраз. Мяккая прыгожая рука панны Рузі падавала яму поўны кілішак падхварбованае.

Вочы гэтак ласкава, з гэткаю пяшчотнасьцю глядзелі на яго.

Вочы... Што за вочы?.. Хто толькі не закахаецца ў іх?..

На мінулай вечарыне ў Янкоўскіх старшыня й начальнік міліцыі гэтак выкручваліся перад Рузяй. Іадказ. Каму сымпатызуе Рузя? Вострыку...

Рука глыбей лезла ў кішэню й чагось там шукала. Па твары распаўзалася вясёлая ўхмылка.

Дзьве бабулі йшлі супроць. Каб не раскідаць начальнікавых мар, зьвярнулі й пайшлі па сьнягу.

— Бачыш ухмыляецца?

— Налізаўся, каб яму смалы... кінулі ў бок Вострыка.

У паветры пахла квашанаю брагаю. Цёплы подых ветра нёс яго з бярэзьніку, што на пералозе.

— Маладцы, здарава тураць! Жывымі драждамі пахне. Во, ты чорт... Значыць гульнём...

Нос прагна глытаў сьмярдзючыя пахі.

Ідучы назад заглянуў на стайню. Два жаробкі выраблялі нагамі дзяўбуна. Убачыўшы чужога госьця пачалі рвацца ад драбіны.

— Ну, ну, цішэй!.. Выгуляліся... на каляды дам работу.

Ох, якія брудныя! Што ён чорт робіць?

— Міхаль! паклікаў служачага.

— Што трэба?

— Вымый чыста вазок... Кожнаму ў грыву ўпляці стужкі. К вовроцям прывяжы званочкі. К першаму дню, каб усё было гатова.

Аддаўшы загады, пашоў пісаць паведамленьне Касьцюку й Нічыпару, каб сабрацца й абгаварыць пытаньне, як і дзе праводзіць сьвята.

У вечары сабраліся ў Нічыпара. Вострык прапанаваў першы дзень гуляць у арандатара млына.

Пасьля спрэчак пастанавілі: на першы дзень ехаць да арандатара, на другі на хутар Янкоўскіх, а на трэці й на новы год, хто куды

У канцы ўспомнілі Барсука.

— Што мы зробім з гэтаю жабаю?

— З кім?

— З Барысом.. Ён можа пабрахаць.

— Мы прымусім яго маўчаць.

— Я думаю так, умяшаўся Нічыпар, вы павінны ўзяць яго ў сваю кумпанію. Ён разумны хлопец. Будзе лепш, калі будзе пісаць за нас, чым супроць нас.

— Калі згодзіцца.

— Спробуем. Вострык прыгожымі літарамі выводзіў:

„Барыс! Сёньня ў нас было пасяджэньне. Той стог, што вы зрабілі на часьць, пастанавілі ўвесь аддаць вам... другое, за тым, што дрэнны ў бацькі конь пастанавілі даць дроў вам. Шчыра вітаю цябе з урачыстым сьвятам. Жадаю вясёла правесьці яго. Шануючы—твой Вострык“.

У канцы дапісаў.

— „Борка! Калі пажадаеш прыдзі да мяне на першы дзень Правязем, куды небудзь за вёску, сум“...

З ласкаваю ўхмылкаю глядзела на зямлю расхварбованае зорнымі агнямі неба.

Радавалася сёняшняму бурліваму настрою вёскі. Вітала мора разьлітае самагонкі. Баялася за цэласьць Піліпавых ботаў. Ён сёньня гэтак скакаў, як яго трымалі старыя ногі. Ды ці адзін ён скакаў? Скакаў Пятрусь, скакакаў Мікола, скакала Грыпіна й Параска скайала. Хто меў дьзвюхзлотку на дрожджы к выпіснуў з гаршка, ці з самавара, кожны скакаў. Скакала цемра і аднабокасьць жыцьця.

Хата арандатара млына даўно рыхтавалася спаткаць гасьцей. Асьветленыя вокны, у цемры, павабнымі вачмі дзяўчыны, вабілі да сябе.

Паненка Мальвіна колькіразоў ужо выбягала на ганак. Прыслухоўвалася, ці ня чуваць званкоў? Вярталася й прыбірала калядную елку. Колькі часу пашло на гэтыя прыборы. Старалася ўсё рабіць з густам. Усё для Вострыка, усё па яго загаду. Канчаўся тэрмін арэнды млына. Казімера даўно непакоіла гэта. Трэба было схіліць упартага Вострыка падпісаць новы кантракт і на ўмовах прыемных для Казімера. К вясьне падрыхтаваць глебу наконт сенажаці. Атрымаць лепшую й танней. Сёняшняя вечарына павінна зрабіць перагіб, ці ў той, ці ў іншы бок.

Гасьцей прыехала больш, чым чакалі. Прыехалі старыя Янкоўскія з дачкою. Мары Вострыка збыліся. Рузя падносіла падхварбованаю, толькі ня кілішкам, а шклянкаю. Ад выпітае самагонкі й ад гарачага дыханьня Рузі, якое ён адчуваў на сваёй шыі, Вострык пачаў п'янець. Хата круцілася перад ім. Разам з хатаю ў вачох круцілася чырвоная морда Нічыпара. Куды не глядзеў Вострык, усюды бачыў яго вуграваты твар... Цяпер стала немагчыма.

— Нічыпар! Сёньня пролетарскае сьвята, а ты кулак... Я табе аддаў сенажаць і панскі садок, а ты ў дзяцей за яблыкі штаны зьдзіраеш?.. Вясною ўсё адбяру... Можа Касьцюк забароніць? Што мне старшыня с. савету... пад пяту... Я гаспадар... Маё ўсё: коні, млын, садок, коопэратыў. Ты Касьцюку за лес цялушку даў.. Я ад кулака не вазьму гасьцінца. Барыс піша, што вы зладзеі, і праўда... А Янкоўскі?.. Стары шэршань, ад падатку зямлю схаваў... бр-р-бр...

Рузя зачыніла плёткару рот і пацягнула ў другі пакойчык,

Я пролетары... Рузя, адзін пацалунак... за твае вочы, я ўсё гатоў... коні й коопэратыў.

— З умоваю, што ты ня будзеш прыставаць да майго бацькі.

— Твой бацька шэршань, але ты Рузя...

Гарачыя жаночыя губы п'яўкаю ўпіліся. Ня далі далей гаварыць.

Пакойчык плыў пад нагамі. Было гэтак прыемна, не хацелася думаць: ні аб млыне, ні аб коопэратыве, ні аб Барысу з яго вострым пяром.

Прыехаў яшчэ начальнік міліцыі. Прыціхнуўшыя, ад прамовы Вострыка, госьці зноў загаварылі.

Цёк самагон. Ліліся праз вокны, у цёмную марозную ноч, сьпевы. Плакала рояль пад пальцамі паненкі Мальвіны. Ён адказваў топат п'яных ног. З цёмных куткоў гучэлі пацалункі: то доўгія, то кароткія. Ім адказвалі цяжкія ўздыханьні старых. Пэражытыя пачуцьці, у іншых толькі ў марах, плылі з глыбіні гадоў. У Мальвіны на вачох стаялі сьлёзы. На першай зары сваіх дзявочых гадоў яна любіла. Любіла таго, аб якім не магла сказаць нават таварышцы. Любіла Барыса .. селькора. На сходзе спаткала яго. Слухала яго прамову аб падатку й сусьветнай рэволюцыі. З цёмнага кутка хтось кінуў у яго паленам. Яна шкадавала яго. Другі раз у вечары спаткала каля лесу йдучы з фэсту. Баялася йсьці з ім. Вядала, што за ім сочаць... Рыхтуюцца забіць. Ішла. Штось моцнае, простае было ў ім.

Гаварыў ёй аб зьдзеках над політычнымі вязьнямі за межамі, аб раўнапраўі жанчын, аб будучым лепшым жыцьці ў бесклясавай комуністычнай дзяржаве. У яго прыгожых разумных вачох сьвяціўся агонь нязвычайны: веры й надзеі ў пачатую вялікую справу.

Пры разьвітаньні расказала ўсё, што ведала. З таго часу не гаварыла з ім. Чаму?... Сама ня ведае. Начамі малілася за яго, хоць ведала, што ён ня верыць у бога. Плакала й шкадавала, зачым ён селькор. Зачым пашоў па гэткім шляху. Сёньня сярод вясёлае кумпаніі яна адчувала адзіноту й сумавала. Сумаваў і начальнік. Зайдросьцячы шчасьцю Вострыка, хацеў чым небудзь укалоць яго. Урэшце ўспомніў пра гззэту.

— Вось, што таварышы! У мяне навіны ёсьць. Нас ва ўчарашняй газэце здорава працягнулі. Асабліва Вострыка й Нічыпара. Жывучы з вамі я ня ведаў, што вы гэтым займаецеся.

Пра Нічыпара я чуў, што ён Касьцюку цялушку даў, а пра Вострыка чую першы раз.

— Што пра мяне?

— Пры вобыску ў Марылі Цімохавай выбраў з кубельца апошняе сала.

— Я... сала... Хто пісаў?..

— Не вядома, подпіс пад артыкулам „вясковы“.

— Барыс, сволач. Яго работа...

Узьюшаны бегаў па пакоях. Начальнік карыстаўся часам. Выкладаў на калені Рузі сваю душу.

— Або я, або ніхто... Калі ня я? дык вось... Адно вам, а другое мне... Жудаснае вока нагана глядзела на спалоханую дзяўчыну.

У хаце арандатара завіруха. Лёс Барсука пастаўлены на карту. Касьцюк з Вострыкам рашалі, як лепш расквітацца з ім.

— Што доўга з брадзягаю вазіцца!? крычаў чырвоны ад злосьці Касьцюк.

— З вёскі, на мушку, ды пад куст.

— Праз вакно. Сабаку па сабаччаму...

— На першы раз мы арыштуем яго, умяшаўся начальнік.

Потым, калі будзе брахаць... убачым...

Далёкімі воўчымі водгаласкамі ў цемры ночы, званілі званкі. Сьціх адзін... за ім другі... Спуджанаю птушкаю трапяталася сэрца ў Мальвіны... Гарачая шчака хацела прапаліць у вакне шыбу...

---

## Н. Вішнеўская

* * *

У прасторах сьнежна-белых
Сьцюжы, веі і зіма...
Паміж варты верб сьсівелых
Добра несьціся ў санях.

Лёгкі бег, у твар сьняжынкі,
Шлях наперад, далей, далей.
Разьліваюцца шамкі
Звонам ў далечы крыштальнай.

Месяц дорыць долу бляскі;
Там, улева, бор чарнее.
Па выбоінам, ух! траска...
Ветры у полі, ветры веюць.

Дражніць далі яркай бельлю.
У небе зоры, ў полі зоры.
Зразумей, ці неба поле.
Ці на полі неба ўзоры.

Конь захроп... Ша, воўча зграя,
Ці мо, гольле шарахціць,
Ці то баюць сосны баі,
Баравыя таямніцы?..

Не згадаю... Эх, ды што там,
Шлях шырокі, коні ймчаць.
Ну-ж, падужай вольны ветру
Пару чорных перагнаць?!

Коні ветры... Поле, поле,
Шлях наперад, вольны шлях...
Белым зьвеяным прывольлем
Добра несьціся ў санях!

16 лютага 1927 г.

---



## Валеры Маракоў

Мой родны край, ізноў я тут!..
Бяроза, неба, сонца й нівы
Пра шчасьце гутаркі вядуць
У песьнях вольных і шчасьлівых.

Празрысты дзень... Прастор і шыр
З палямі разам ў дзіўным сьне
Адным жыцьцём гарэць і жыць,
Адным імкненьнем паланець.

Ах, сэрца цішай... сэрца стой!..
Яна пазнала... Што-ж з таго?..
Прайду я ціха між кустоў
Збудзіць ў душы другі агонь.

Бо гэтак цяжка, родны край,
Над Нёмнам шэпчуць каласы...
Тут пець і жыць, а там згараць
Ў абоймах сонечнай красы.

Вітаю ўсіх я з новым днём
Прастор... дзяўчыну і жніво...
Я так прышоў, каб верыць зноў,
Каб зноў згараць ў траве з травой!

# У квітучым пекле

Атрымана з Явы на міжнароднай мове Эспэранто

Зьм. Белы

*У мінулым месяцы на высьпе Ява, якая знаходзіцца пад уладаньнем Голяндыі зусім нечакана пачалося паўстаньне тузэмцаў.*

*Гэта акалічнасьць значна павысіла інтарэс у нашым Саюзе да гэтае квітучае выспы, жыхары якой кінулі вялікі вызаў—сусьветным капіталістым.*

*Каб даць чытачом уяўленьне аб прычынах, якія выклікалі паўстаньне, мы зьмяшчаем тут гэты артыкул.*

Ява—самая квітучая, самая багатая выспа Інданэзіі.

Ява—месца, дзе колёнізатары ня так лаўно „ўсьміралі" паўстаўшы народ.

На поўдні—вульканы, сопкі, ушчэльлі, у цэнтры горы, пакрытыя лесам. На паўночы—ураджайнейшыя палі—царства плянтацый: Індыга кавы, гарбаты, рысу, тутуню, цукровага трысьця, каўчук—усё гэта залатое дно для сусьветных драпежнікаў.



Стары пролетары з выспы Ява.

Індыя і Інданэзія дае 70% гадавой продукцыі каўчуку і першае месца займае Ява. Гэта значыць: мільлёны прыбытак—мэтраполіі; жабрацтва, покута і голад—для караных жыхароў.

Выспа заселена густа—да 700 чалавек на адну кв. мілю. Па ўсяму паўночнаму берагу цягнуцца хаткі, шалашы, свайныя будынкі на балоце. Як толькі пачынае сьвітаць—густой хваляй ідуць рабочыя на фабрыкі, на плянтацыі, іх абганяюць капіталістыя, якія едуць дадому пасьля начное п'нкі.

На Яве ў дзень—вельмі горача і ўсё эўропэйскае жыцьцё эўропэйцаў замірае; нават тэлэфон і тэлэграф не працуюць.

А яванцы ў гэты час гнуць сваю сьпіну на плянтацыях ад зары да зары за мізэрную грашовую аплату.

Пуга дазорцы заўсёды нагатове.

А ўночы калі выяжджаюць капіталістыя на балі, шпацыр, концэрты—утомленыя работнікі сьпяшаюцца дадому. Так жывуць яванцы ўдзень, эўропэйцы —у ноч"

Працуюць на Яве ўсе ад 7 гадоў і чуць не да самай сьмерці, пакуль за работаю і акалее. І дзеці, і старыя працуюць роўна. Толькі дзеці ад 3-6 гадоў застаюцца дома. Што яны ядуць—хто іх ведае. Да і самі рабочыя ядуць карэньні, зелень і сачэўку. Іншыя за ўсё жыцьцё ня елі мяса.

На плянтацыях, дзе работнікі жывуць у казармах, умовы жыцьця вельмі цяжкія. Баракі нізкія, бяз вокан, у сярэдзіне 4-5 паверхаў-полак, духата, вонь параваньне поту, опіуму, якім атручываюцца ўсе.

Жаўнеры на Яве—голяндцы. На Яве яны атрымоўваюць сабе „пайковую жонку" і казённага дабра. Жонкі павінны рабіць усю чорную работу ў казармах: яны і прачкі, і кашавары, і грузчыкі, і разносчыкі, якіх ганяюць ў страшэнную сьпёку за дзесяткі вёрст. Ад жаўнераў яны маюць дзяцей—мэшанаў. Гэтыя дзеці—няшчасныя тварэньні. Эўропэйцы імі ган'бяць, тузэмцы ненавідзяць, як „вырадкаў". Хлопчыкаў выхоўваюць у казармах, робяць з іх потым жаўнераў

ніжэйшых паліцэйскіх. Дзяўчынак проста топяць, як кошак, з каменем на шыі, бо іх некуды дзець.

Гэта ўвашло ўжо ў быт, аб гэтым усе ведаюць, але маўчаць. „Што-ж рабіць?...

Пабуюць і ўціскаюць явайцаў усе: і галяндцы, і кароль бяз трона, які сядзіць ў адстаўцы, атрымоўвае пэнсію і долю барыша на плянтацыях і піша законы, каб усе явайцы хадзілі ў сініх вопратках. Ціснуць плянтатары, паны-фэўдалы, якія маюць права судзіць і катаваць сваіх рабоў. Сяляне знаходзяцца фактычна ў крэпасной залежнасьці ад пана, работнік у руках плянтатара. Работнікі працуюць пад сонцам, а дазорцы ў бінокль з-пад дрэва глядзяць за іх працай. І гора таму, хто задумае хоць на хвіліну разагнуць сваю сьпіну. Як вараньнё налятаюць на яго з пугамі дазорцы і... б'юць.

Бываюць дні, калі ім нічога ня плацяць, бо так „загадаў гаспадар". Вось гэта нечалавечая эксплёатацыя, беднасьць, голад—і давялі церпялівых явайцаў да паўстаньня, да барацьбы з „белым чалавекам". Паўсталі ўсе, як адзін... Паўсталі з стрэламі... і кулакамі супроць добра ўзброеных „гаспадароў". Усе крэйсеры, што былі на моры, як коршуны наляцелі на паўстаўшых .. Расправа была кароткая. Па 20-25 чалавек падвешвалі да сьценкі і білі бізунамі, скоўвалі ў круг і... расстрэльвалі. У раёне Лабуан паветра ўсё было з пахам ад трупаў. А ў турмах—было поўна рабоў, адтуль іх проста накіроўвалі на другі сьвет.

Так было падаўлена паўстаньне. Рабы зноў пашлі на работу, голандцы зноў пачалі спакойна спаць. Паўстаньне прайшло, каб праз 2-3 месяцы зноў разгарэцца з новай сілай. Горача тады будзе капіталістым...

## НАД КРЫНІЦАЙ

### Юрка Бітус

Як міла, весела, прыгожа
Ісьці праз зарасьнік лазы,
Мінаць пуцінак раздарожжа
І чуць жукоў вячэрні зык.
Вядзе ў гушчар малая сьцежка,
Травой заросшая кругом.
Паклоны б'е лісьцё з усьмешкай,
Ня кажа толькі ад каго...
Ды вось ужо відаць крыніца
І нехта ў белым ля яе,
Гэта яна—мая сініца
Чакае любая—мяне.
Іду, іду... Прыбаўлю кроку.
Пачуеш скора шорах мой,
Я ўжо крыніцы чую лёкат
І чую погляд сьвётлы твой.
Я тут над гэтаю крыніцай
Табе так многа раскажу,
У сэрцы радасьць заіскрыцца
З душы прагоніцца ўся муць.

15 лютага 1927 г.

## ВАСІЛЬКІ

### Зьміцер Астапенка

Пад нябеснаю сіньню глыбокаю
У жытнёвых шнурох ля ракі
Засінелісь мяжой сінявокія
У блакітных палёх васількі.
Расьцілалася вокал жытнёвая
Залацістая сьпелая гладзь,
Перапёлка ў ночку ліпнёвую
Адбівала ў жытох: „падзі спаць"...
Плыла навакол задумённая,
Сьветлазорая, ціхая ноч.
Межань песьні насіў ціхазвонныя
Над лугамі ў сівых туманох.
Колькі казак і песень тых марылась,
Нават нельга і ўспомніць усіх!..
Раньнем сонейка росы крышталіла,
Углядалася ў нівы, аўсы.
Нікла цемра пад сонца праменьнямі,
Расплываўся туман ля ракі.
І сьмяяліся зноў па-вясеньнему
У жытнёвых палёх васількі.

В. Сяргееўка, Рослаўск. пав. Пятровіцкай вол., Смаленшчына.



# На што трэба зьвярнуць увагу пачынаючым поэтам

**Юрка Бітус**

Вельмі прыемна чытаць літаратурна-мастацкую часопісь „Чырвоны Сейбіт“, і вельмі зацікаўліваюць напоеныя прыгожасьцю і мілагучнасьцю вершы, а таксама і апавяданьні. Зусім іначай успрыймаецца адзін артыкул зьмешчаны ў № 6-7 „Ч. С.“, ў якім вясковы адзін хлапец закранае пытаньне аб тым: „чаму „Сейбіт“ не высьвятляе творчых сіл вёскі“? Высьвятляе, і добра высьвятляе, адказ кароткі. Але прачытаўшы гэты артыкул, у мяне зразу ўзьнікла думка: „мабыць вясковыя, маладыя, пачынаючыя пісьменьнікі і поэты ў асаблівасьці, не зразумелі дасканала самай солі, літаратурнай творчасьці“.

Гэты артыкул нібы вярнуў назад калісь і ў мяне гіснаваўшую думку падобную да думкі вышай памянёнага аўтара. Перажыўшы сам сваю пачынаючаю творчасьць, я добра разумею і ўсіх пачынаючых поэтаў.

Я таксама з вёскі такой самай, як і вы, вучыўся і вучуся пісаць у такіх самых умовах, як цяпер маеце самі.

На основе гэтага я пастараюся падзяліцца з вамі сваім уласным вопытам, які магчыма прыдасца і ў вашай маладой літаратурнай творчасьці... З вас кожны знае, што да ўсякай працы патрэбна мець здольнасьць. Бяз здольнасьці кажуць спэц ня бывае. Што-ж гэта за здольнасьць такая?

Растлумачыць яе можна самымі лёгкімі прыкладамі. Мабыць ў кожнай вёсцы ў вас ёсьць такія людзі, якія нажылі сабе падсобную, або нават самастойную профэсію шляхам саманавучэньня. Напрыклад, у нас: ё зусім малады хлапец, які сам навучыўся добра сталярыць і цяпер лічыцца самым лепшым столярам у нашым раёне. Робіць самыя марудныя і featureнастойныя рэчы. К гэтаму яшчэ мае кузьню і ўмее добра каваць. Вось бачыце, якая здольнасьць.

„Хлопец“ як кажуць „на ўсе рукі“. Такую здольнасьць павінны мець і вы. Яна ў большасьці мабыць і ё, але яна недзе схавана.

Вядома, што такі столяр ні ў якім разе непакажа сваёй вялікай здольнасьці голымі рукамі. І мы хоць памылкова, але сьмела можам сказаць: „якi-ж з цябе столяр, без начыньня?“ Вось гэта начыньне павінны мець і вы маладыя пачынаючыя поэты. Толькі справа ў тым, што наша начыньне мае зусім другі характар і паняцьце, чымся начыньне столяра. Самым галоўным начыньнем у нас будзе вучэньне. Каб пісаць вершы трэба многа ўсяго ведаць. Дзеля гэтага, спачатку чым пісаць трэба быць агульна адукованаму, шляхам хоць-бы і саманавучэньня. Вучыцца трэба ня толькі, каб умець рашаць задачы, а трэба, каб умець пазнаваць, разьлічаць, самое жыцьцё.

Акрамя агульнай адукацыі трэба мець шырокае азнаямленьне, як з беларускаю літаратурнай творчасьцю розных поэтаў і пісьменьнікаў, так і сусьветнаю літаратураю.

Поэтам пачынаючым патрэбна яшчэ дасканалае азнаямленьне з поэзіяй і яе тэорыяй, запатрабаваньнямі, якія вымагае ад кожнага поэты... Цяпер аб вершах. Хаця аб гэтым казаў У. Дубоўка, але дзеля яснасьці скажу трохі і я. Большасьць нашых пачынаючых пісаць хлапцоў жараць спачатку вершы.

А лепш за ўсё пісаць спачатку трэба прозаічныя творы.

Затым што ў прозе можна: куды ясьней, куды рэальней выкласьці свае думкі, чымся ў вершах. Але гэта парада я ведаю не здаволіць нашых пачынаючых поэтаў. І будзе вялікая памылка з іх боку. Калі ты спачатку пішаш прозай у цябе разьвіваецца спасобнасьць, бяз усякага напружаньня лёгка і вольна выкладаць свае думкі. Пасьля, калі ты будзеш уладаць прозай, табе зусім будзе лёгка перайці на вершаваньне сваёй творчасьці. Падумайце самі! Гэта ня верш, калі ты яго пішаш з вялікаю напружаннасьцю шукаючы дзе небудзь у „столі“ слоў дзеля яго. К гэтаму трэба вельмі добрая тэхнічная апрацоўка верша. Так штось таварышы маладыя пачынаючые пісьменьнікі і поэты нам трэба ў першаю чаргу налегчы на навуку, якая дапаможа выявіць нашу, мабыцьця у некаторых вельмі вялізарную, літаратурнаю здольнасьць.

В. Казянінка Сьмілавіцкі раён.

# „Трымдай, трымдай, балалайка“

*(Адказ на „Макароны“ Алёшы, „Савецкая Беларусь“, № 36 1927 г.)*

**М. Грамыка**

Фэльетон добрая рэч, патрэбная ў газэце рэч. Добрая рэч і літаратурная крытыка. Можна і трэба высьмяяць, паказаць дрэнныя бакі літаратурнага твору,— гэта карысна і чытачу і самому пісьменьніку. А можна заместа гэтага пазубаскаліць, паказаць ня столькі на недахваты твору, як свае ўласныя зубкі (часам і гнілаватыя).

— „Глядзеце, вунь пашоў нейкі чалавек, сьмешна, га-га-га!“

— „Што сьмешна!“

— „Да так, гы-гы-гы! Сьмешна!“

„Паглядзіш на іншага поэту,—чалавек, як чалавек, пашкадаваць яго трэба“,—піша Алёша.

Правільна, Алёша!

А вось зірнеш на іншага крытыка і гэтага ня скажаш, а скажаш прыблізна так: „Ну, што-ж, па фэльетоністу і фэльетон, адзін, аднаго варты“.

Фэльетоністы павінен зьвяртаць увагу на адмоўныя, ненормальныя бакі жыцьця (і твораў) і высьвятляць іх *сумленна*. Сьмяяцца над тым, што поэта бярэ гонорар (не па тры грыўні, а па дзьве, як і іншыя поэты, т. Алёша!) гэта ўсё роўна, што высьмяяць профэсара, скажам, што ён за лекцыі атрымоўвае грошы: „Іш, чытае! А грошыкі бярэш!“

Справа ў тым, што і фэльетоністыя бяруць... толькі не ад радкоў, а ад слова; здаецца бяруць і тады, калі прыводзяць цытаты з вершаў і іншых аўтараў, з якіх сьмяюцца—выгодна!

У вершы „Студнёвыя сьпевы“ аўтар хацеў даць бадзёры зімовы настрой Савецкае краіны, якая спакойна, ўпэўнена чакае „вясны“, якая-б яна ня была. Ясна для кожнага не—„Алёшы“, што сьняжкі—поэтычны вобраз, а не „стратэгія“; што калі нам *паказваюць* гарматы,—мы адказваем лёгкімі, як сьняжкі, але моцнымі, як гарматы лёзунгамі рэволюцыі (часта можна бачыць лёзунгі „Нашая зброя—нашае слова“). Толькі... Алёша (з прыдыханьнем на пачатку) мог не зразумець, што „левай“—ёсьць таксама поэтычны сымболь левага, рэволюцыйнага кірунку ў розных нацыянальных рухах, розных прыгнечаных капіталам краін („левай у камень піраміды“). І ня гледзячы на зубаскальствы Алёшы, поэта будзе і далей, як і дагэтуль, трымацца гэтага „левай“ у сваіх творах.

Агульнага паміж „Студнёвымі сьпевамі“ і прыведзенымі Алёшам рыфмаванымі макаронамі надта многа...

Можна агульнае бачыць, дзе заўгодна: у фэльетоністага Алёшы, я думаю, ёсьць пара вачэй і, напэўна, пара вушэй, але-ж адсюль можа не выпадае рабіць розныя параўнаньні...

Н-н-да! Фэльетоны добрая рэч, дзядзя Алёша. Я ўспомніў адзін верш: „Трымдай, трымдай балалайка, трымдай трымдалка мая“,—таксама расійскі:— Да пабачэньня!

---

## ДА ПЕРАМОГІ!

*Юлі Тоўбін—П. Юргялевічу*

**І дні ідуць... Ідуць наперад.**
**І дні бягуць—бягуць у даль.**
**Шляхі жыцьця свайго памерым,**
**Прагонім з сэрца сум і жаль.**
**Мы ня спынімся ў сумленьні**
**На крыжаваньні дзьвюх пуцін,—**
**Хай перашкоды і сустрэнем—**
**Да перамогі шлях адзін!..**
**І пойдзем мы па той дарозе**
**Да сонца яснага ў паход...**
**Ня спусьцім рукі ў зьнямозе,**
**Калі каменьне на шляхох.**
**Зайздросьціць вораг у бясьсільлі**
**Мінулыя ня верне дні!**
**Агонь паўстаньня распалілі**
**Мы на абломках старыны.**
**Гарыць агонь, гарыць не гасьне,**
**А сэрцы б'юць ў адзін парыў:**
**„Мы ўладары людзкога шчасьця,**
**Мы новай долі ўладары“—**
**Самкнём шчыльней свае атрады**
**І загартуем моц калён,**
**І забурліць, запеніць радасьць**
**У гымнах новых сьветлых дзён!**

Мсьціслаў, Калінінішчына.

---

# Краязнаўчыя музэі

Мікола Касьпяровіч

Краязнаўчая справа ў нас з кожным часам пашыраецца. Амаль у кожным раёне ёсьць краязнаўчае аб'яднаньне, якое ўзялося ўжо за першую працу вывучэньня свае тэрыторыі: збор матэр'ялаў, колёкцыянаваньне і організацыя краязнаўчага музэю. Толькі ў ім можа ўжо ісьці процэс вывучэньня. Прысьпеў час паставіць на чаргу дня пытаньне аб організацыі краязнаўчых музэяў.

Перад тым, як перайсьці да апошняга трэба акрэсьліць тэрміны: беларусазнаўства, што вельмі часта клічуцца называць тое, чым яны ня ёсьць.

Беларусазнаўства—гэта ўсебаковае грамадзка-экономічнае, прыродна-географічнае і культурна-гістарычнае пазнаньне Беларусі, г. зн. бацькаўшчына, веданьне, аб комплекс ведаў аб Беларусі—яе прыродзе, экономіі, насельніках, ня выключаючы нацыянальных меншасьцяй і г. д.

Краязнаўства-ж гэта пазнаньне своеасаблівай прыродна-географічнай адзінкі. Яно мае мэтаю вывучэньне як сучаснасьці, так і ў гісторыі—вывучэньне прыродных багацьцяў краю і працы чалавека ў ім.

Вось якраз краязнаўчы музэй павінен цалкам адбіваць свой край. Зьместам яго будзе праца чалавека ў акружаючых—прыродзе і грамадзкіх умовах, пераважна сучаснасьці.

Вывучэньне краю, як мы казалі, пачынаецца зборам матэр'ялаў, наглядняньняп, клясыфікацыі іх, параўнаньнем і адпаведнымі вывадамі. Ужытыя, такім чынам, матэр'ялы й нагляданьні складуць нешта цэльнае, сыстэматычнае, што завуць музэем. Значыць, краязнаўчы музэй зьяўляецца вынікам звычайнай штодзённай працы краязнаўчай організацыі.

Музэй будзе мець выдатна асьветнае значэньне як аснова дзейнасьці хатніка, клюбнага працаўніка і г. д., а такжа навуковае, паказваючы тыя факты і зьявы, якіх вучоны з цэнтру сабраць часамі і ня зможа.

Апрача таго, краязнаўчая організацыя зможа скарыстаць свой музэй як падрыхтоўчую і заключную частку экскурсіі, наогул свае працы, для організацыі выставак на паасобныя тэмы і пэрыядычныя і г. д.

Роля краязнаўцы-організатара ва ўтварэньні музэю, як і наогул у сваёй дзейнасьці, будзе складацца адно з організацыі працы сялян ці рабочых, як было ў Бабруйску.

Складаючыся з сыстэмы экспанатаў па разьдзелах—прырода, праца, грамада, музэй, як мы казалі, будзе адбіваць акружаючае жыцьцё. Пэўны парадак і колькасьць рэчаў музэю будзе паказваць даны стан краю і толькі працы краязнаўцаў, графічны матар'ял змогуць паказаць і яго разьвіцьцё.

Музэй не павінен быць як простым складам многіх нейкіх рэчаў, так і зборам рэдкіх нязвычайных экспанатаў, г. зн. не павінен ухіляцца ад асноўнай дзейнасьці краязнаўчай організацыі: вывучаць штодзённае звычайнае жыцьцё. Ён павінен зьмяшчаць звычайнае, штодзённае жыцьцё, якое так прывычна і так няпрыметна для нас і якое мы, бадай зусім, ня ўмеем бачыць. Паколькі рэдкае часамі нясе ў сабе нейкую карысную таемніцу—і яно знойдзе месца ў музэі, але збор толькі рэдкасьцяй ня дасьць нам таго, што трэба.

Вырасшы з працы краязнаўчай, музэй мае адбіваць і гэту працу, а, раз заснаваўшыся, ён будзе дапамагаць гэтай працы, выклікаючы пашырэньне яе.

Пры разьмяшчэньні музэйнага матар'ялу, канечна, трэба захоўваць наступныя прынцыпы: дакладнасьць, навочнасьць і плянавасьць.

Зразумела, што пры організацыі музэю трэба мець наогул пардлабязны плян гэтай організацыі. Пры ўкладаньні пляну карысна скарыстаць адпаведную літаратуру. Крытэрыем пры ўкладаньні пляну музэю павінна быць адно—ці адбівае даная рэч акружаючае жыцьцё, ці дапамагае вывучэньню яго, г. зн. ці адпавядае асноўнай мэце краязнаўчае дзейнасьці.

Калі організацыя ўклала плян, перад ёю паўстае пытаньне аб памяшканьні для экспанатаў. Гэта пытаньне павінна быць разьвязана нават пры складаньні пляну. Добра, калі знойдзецца пакой, а калі яго няма—дык прыдзецца задаволіцца сьценамі свае хаты-чытальні, школы ці падобнай установы. Праз усю сьцяну трэба будзе прыбіць паліцу са звычайнай дош-

кі, а калі яе ня хопіць, дык другі і г. д., 2-4 паліцы на 2-3 сьценах на першы час хопіць, а там—можа знойдзецца й лепшы прытулак.

Разьмяшчаючы экспанаты на гэтых паліцах, трэба помніць, што музэй ня турма для бязпашпартных. Да кожнай рэчы павінен быць прымацованы пашпарт: картка з мясцоваю і літаратурнаю назваю рэчы, часамі і парасійску або палатыні, адкуль, кім і калі гэта рэч узята, хто зрабіў, а таксама нумар каталёгу. Без пашпартаў і апошняга музэй ня мае ніякага значэньня. Каталёг спачатку можа быць адзін хронолёгічны, куды заносяцца рэчы ў парадку іх паступленьня. Ён можа быць звычайным сшыткам з наступнымі дадзенымі: чарговы нумар, назва рэчы, матэрыял, разьмер, адкуль рэч узята, кім, калі, кім зроблена і для ўваг. Такім чынам картка можа мець, напрыклад, такі запіс: „№ 148 Гадзіна, злоўлена на муху, ў Рубяжох Бешанкавіцкага раёну, Пажарышчанскага сельсавету Язэпам Галузаю 8 мая 1925 г. прынесена вучнем 3 групы Кастусём Базылёнкам“.

Зразумела, ніякімі падручнікамі не навучыш організацыі музэю, не накажаш мэтадаў скарыстаньня яго, значэньня. Трэба пачаць працу, перамагчы некалькі няўдачаў і толькі тады ўцяміш сутнасьць справы і адказацца ня зможаш.

Каля ўсякай справы зьбіраецца група асоб ёю больш за іншых зацікаўленых. Так і каля музэю згрупуюцца зацікаўленыя краязнаўцы і заснуюць радзімазнаўчы гурток. Яны будуць дбаць аб росьце і папулярызацыі музэю, укладаць бібліографію свае радзімы, жыцьцёпісы дзеячоў яе, выражуць і наклеяць у асобы аддзел корэспондэнцыі з усіх газэт аб сваёй радзіме, зьбяруць бібліотэчку аб сваім краі, завядуць школьны летапіс, радзімазнаўчы дзеньнік і г. д. і г. д. Словам шырэй разгорнецца краязнаўчая справа, у якой селянін зможа зрабіць больш, чым вучоны, які жыве далёка ад краю.

# БІБЛІОГРАФІЯ

**„Маладняк“ № 1 1927 г. Орган ЦБ „Маладняка“.**

Кожны новы нумар „Маладняка“ чакаецца намі ўсё з большаю надзеяю. бо надта шмат патрабуе жыцьцё ад яго, бо надта шмат ад яго чакае грамада. Вось чаму з асабліваю зацікаўленасьцю і ўважлівасьцю прыходзіцца сачыць за кожным яго крокам, радавацца яго дасягненьням і, бязумоўна, ня ўтойваць, а выкрываць усе заўважаныя адступленьні ад руху наперад, штурхаць да новых посьпехаў, да перамогі над заганамі росту.

З I-м нумарам 1927 г. часопісь „Маладняк“ уваішла ў пяты год свайго існаваньня. Адгэтуль, патрабаваньні да яе павінны зараз быць куды шырэйшымі, чым то было некалькі год назад. Патрабаваньні гэтыя будуць узрастаць па меры росту высоўваемых жыцьцём заданьняў. Да і сёньня перад часопісьсю стаяць яшчэ нязнаныя ўчора задачы—абвостраныя задачы барацьбы па стварэньні пролетарскае літаратуры, якая павінна быць і ўсё больш удасканальваемаю па форме і куды мацней, чым гэта было ўчора, глыбокаю па зьместу.

Калі мы з такім крытэрыем падойдзем да рэцэнзуемага нумару часопісі, дык, нажаль, ня ўсім можам быць здаволены, і найбольш не здаволены якраз літаратурнаю яе часткаю.

Самае адмоўнае ўражаньне ў часопісі выклікае апавяданьне П. Галавача „Дзьве сьцежкі“. Сутнасьць апавяданьня: да-рэволюцыйны купец, кулак, жывадзёр і кравапіец пры дапамозе земскага начальніка (лібэрала?) і яму падобных, высмоктвае сокі з сялян сваёй вёскі; не зважаючы на некаторую нясьвежасьць такое фабулы, пад пяром сапраўднага мастака і тут мог-бы выйсьці каштоўны твор. У Галавача-ж атрымалася неяк так, што чытач з першае староні пакідае верыць аўтару.

Дый як верыць, скажэце па міласьці? Аўтар бае, што ў галоўнага „пэрсанажу“—крывапіўцы кулака -ёсьць сын Андрэй, які ў 13 гадоў (каб гэта зараз, дык не дарос-бы яшчэ да комсамолу) вядзе такія гутаркі з земскім аб вайне (было ў 1914 г.).

— Нашто гэта вайна, каму яна патрэбна, гэта-ж згуба людзей Бяз рук, бяз ног там носяць у вакзал. І нам і немцам ад вайны шкода, а карысьці ніякай ня бачу я. Зачымжа яна, Сямён Захаравіч?

Ці ня праўда, разважае лепш за некаторых дарослых таго часу гэты купецкі гультай-сынок, які потым з нейкаю неразгадаю баечнаю шпаркасьцю вырастае і пападае на вайну і... ляжыць параненым ужо ў ваенным шпіталі ў сваёй вёецы.

Усё надумана, ніводнага мастацкі сочнага радка, ніводнае праўдзіва-жыцьцёвае рыскі ў выведзеных тыпах. Нейкі нэосэнтымэнталізм, нейкая какарамзінаўшчына. З аднаго боку да крайнасьці жаданьне намаляваць страшнае аблічча вышаўшага ў „людзі“ кулачка, з другога—яшчэ большае жаданьне прымусіць чытача верыць у чыстату „анёльскае“ душы яго сына—паніча. Але як першае, так і другое выклікае ў чытача толькі жаль да пісьменьніка, бо аўтару не па сіле аказалася ўзятая ім на сябе місія. У выніку атрымаўся „канфуз“ як для яго, так і для рэдакцыі—ды і за дзела, бо аўтару трэба шмат навучыцца на прыкладах сучаснае расійскае літаратуры, а рэдакцыя не павінна была зьмяшчаць такое халтуры. (Праўда, апавяданьне яшчэ ня скончана, але і зараз можна прадбачыць, што канец справы не паправіць).

Зусім іначай трэба ацаніць другое апавяданьне—„Яйцо і сьлівы“ Р. Мурашкі. Мурашка сапраўды расьце; „Яйцо і сьлівы“ сьведчыць аб гэтым

росьце. Надзвычайна ўцешна, што аўтар аўладаў так сказаць, тэхнікаю пяра, што ўжо зараз ня бачым тых частых шурпатасьцяй у стылі, якія наглядаюцца, скажам, у яго ранейшых апавяданьнях (зборнік— „Стрэл начны ў лесе“).

Ня надта радаваць нас можа ў часопісе і аддзел лірыкі.

Найбольш-жа трывожыць творчасьць М. Чарота. Яго верш „Заўтра“, як і іншыя апошнія вершы зусім ня сьведчаць, што паэта прагрэсуе наперад; апошняе „Заўтра“ Чарота перапета ім не адзін дзесятак разоў, а мэтрыка, а рытміка, а рыфматыка не адышлі і на крок далей ад „Учора“. Чарот 1923 году з яго „Чырвонымі вясьнянкамі“, „Люблю“ і іншымі невялікімі вершамі быў куды цікавей Чарота з яго „Заўтра“.

А. Александровіч, як і раней, гоніцца за аўладаньнем прынцыпам дынамічнасьці вершу. Аднак у вершы „Віратлівы разьбег“ (хоць і прыгожы верш), яму ўсё-ж такі поўнасьцю не ўдалося дасягнуць мэты. Паэта ўсё такі хоць і надзвычайна паступова, але расьце.

Горш справа з вершамі Ан. Вольнага. Тут і „чорт карак зломіць“, а не дагадаецца, што-ж выказаць паэта думаў; не дагадаецца не затым, што ў вершах есьць „нейкая недасяжная глыбіня“, а якраз наадварот—што ў іх толькі адзін „nihil“ (нічога няма), адзін набор часамі ўдалых, часамі нікчэмных сказаў.

„...Усе гавораць, я сэрца раскінуў
Найцудоўнейшаю нябыліцай“...

або:

„...Я і песьня...
Мы ўдвох...
Скажажам проста...
Мы пакінем—нам трэба пайсьці!
І любіць цябе песьняй ня можна.
Ды і роўнай табе не знайсьці“

Набор слоў у нейкай кволай трасцы (ліхаманцы), бясэпеныя выгукі, прычым разьмер і рыфма адпавядае даўно забытаму—

Капярына вялікая, о
Паехала ў Царскае Сяло...

Пра русіцызмы мы ўжо і ня кажам. Калі-ж, калі паэта падумае аб культываваньні свайго вершу? Ці мо' гэта яму не па сіле? Дык ня трэба паперы глуміць.

Затое сэрца радуецца, чытаючы вершы маладзейшых маладнякоўцаў-начынальнікаў. Вершы— І. Плаўніка, В. Маракова, Юр. Лявоннага, Бандарынае, Хадыкі, Вішнеўскае і Маркава—сьведчаць, што на мастацкім слове папярэднікаў узгадавалася і дужэе новая маладая літаратурная зьмена, якая даганяе, а часам і перасягае па ўдасканаленасьці апрацоўкі, па глыбіні і якасьці зьместу наша „сярэдняе“ літаратурнае пакаленьне—першых закладчыкаў часопісі „Маладняк“.

Багаты грамадзка-палітычны аддзел часопісі ўсё-ж такі, нажаль, мае мала спэцыфічна-журнальнага матэрыялу. Артыкулы „Аб перасяленьні ў Сібір і на Далёкі Усход“ і „Асновы савецкае дзяржавы“ зусім маглі быць бесхваробна выняты з часопісі, бо першы—хутчэй газэтны артыкул, цікавячы больш шырокія колы -грамады, а ня толькі чытачоў „Маладняка“, а другі, распрацоўвае пытаньне, якое кожнаму вядома з самых элемэнтарных падручнікаў політграматы.

Цікавым матэрыялам зьяўляецца артыкул Л. Цьвяткова аб „Таварыстве філёматаў“—пачатках абуджэньня нацыянальнае сьвядомасьці сярод вучнёўскае моладзі пачатку 19 стагодзьдзя.

Нажаль, у нумары зусім не асьветлена жыцьцё, барацьба і рух у прыгнечанай Польшаю частцы беларускага народу.

У агуле-ж, рэдакцыі часопісі трэба больш турбавацца аб павышэньні якасьці зьмяшчаемага матэрыялу, бо таптацца і далей на „эфтым самым месцы“ сёньня ня час.

Н. Ч.

---

## Чаму змагаюцца з капіталізмам

**Джэк Лёндан. Нязвычайны адрывак. Выданьне ЦБ Маладняка, 1926 г. 46 стар., ц. 25 к.**

Калі сярод прыгнечаных капіталістымі Захаду Эўропы і Амэрыкі адбываецца паўстаньне,

Калі замучаныя катаржнай працай жоўтыя, чорныя рабочыя пачынаюць трэба аць сабе лепшых умоў працы,

— Капіталістыя ўсіх масьцей і старон сьвету пачынаюць у адзін голас крычаць:

— Гэта—праца Комуністычнага Інтэрнацыяналу. Бальшавіцкія агэнты надбурваюць гэта паўстаньне, бальшавіцкае золата яго падтрымлівае.

Так пераконвае ўвесь сьвет буржуазія.

Джэк Лёндан пісаў свае апавяданьне ў той час, як Комінтэрн, нават, зусім не існаваў.

Ад ак. яго творы часта расказваюць аб вялікай соцыяльнай няраўдзе—завуць да барацьбы за зьнішчэньне гэтае няпраўды.

Яго „чайнэго“, бясправны кітаец А-Чо, даводзіць нам, як бескантрольна гаспадараць на Далёкім Усходзе, на выспах Вялікага Акіяну прадстаўнікі эўрапэйскага імпэрыялізму. Добры пераклад дазваляе нам лёгка перанесьціся ў далёкія краіны, самае апавяданьне—чаму-ж паўстаюць і змагаюцца за сваю лепшую долю сотні мільёнаў „чайнэго“ і ў Кітаі і на выспах Зондзкага архіпэлягу...

Сара Маршак.

---

**ЯКУБ КОЛАС у літаратурнай крытыцы. Да дваццацігадовага юбілею яго літаратурнай дзейнасьці. Зложыў Ул. Дзяржынскі. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск, 1926 г.**

Дваццацігадовы юбілей нашага народнага поэты Я. Коласа адзначаны выданьнем двох зборнікаў аб ім. Адзін выданы ў Маскве, а даны зборнік, што зьяўляецца прадметам нашага разгляду, выданы Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі ў Менску. Да гэтага часу на беларускай глебе такіх кніг не выдавалася, таму прыходзіцца асабліва вітаць такое пачынаньне. Гаварыць аб карыснасьці выданьня такіх зборнікаў ня прыходзіцца, бо таму чалавеку, які хацеў раней пазнаёміцца з крытыкай аб Коласе, патрэбна было перакапаць шмат часопісаў і газэт, якіх часта ня было пад рукамі, а цяпер усё гэта замяняюць выданыя зборнікі.

У даным зборніку сабрана амаль усё, што да гэтых часоў было напісана аб Коласе, хоць дробныя рэцэнзіі і водгукі на пачатковую творчасьць Я. Коласа і ня ўведзены ў зборнік, але яны падаваны амаль усе ў падгульняючым артыкуле Дзяржынскага «Да портрэту Я. Коласа ў літаратурнай крытыцы». Некаторыя артыкулы ў гэтым зборніку надрукованы першы раз. Да такіх належаць памянёны артыкул Дзяржынскага, таксама і другі яго

артыкул «На паваропе», артыкул А. Лёсіка „Соц. пол. элем. у творах Я. Коласа»... і Бузука „Мова і правапіс твораў Я. Коласа". Таксама ў зборніку паданы самім поэтам-юбілярам біографічны матэрыял, вельмі цікавы, якога ў друку да гэтых часоў ня было. Усе іншыя артыкулы друкаваліся ў розных часопісях і газэтах і таму яны ўжо знаёмы чытачу.

За адсутнасьцю месца разглядаць паасобныя артыкулы з боку іх вартасьці няма ніякае магчымасьці ў сьціслай рэцэнзіі, можна толькі заўважыць, што ў зборніку ёсьць і слабаваты матэрыял, але ўсякі матэрыял, хоця нават ён і слабы, не пазбаўлены вартасьці для дасьледчыка літаратуры. Большасьць-жа артыкулаў грунтоўна распрацованыя і вельмі цікавыя. Да такіх належаць хоцьбы артыкул проф. Замоціна аб „Новай Зямлі" і арт. Дзяржынскага „На паваропе" і інш. Наогул, увесь зборнік вельмі цікавы, і Дзяржаўнаму Выдавецтву патрэбна і аб другіх пісьменьніках выдаваць падобныя зборнікі, чым аблегчыцца праца нашае школы.

Пераходзячы да тэхнічнага боку зборніка, трэба адзначыць, што гэты бок у нас яшчэ недамагае. Выдавецтва выдала гэты зборнік, каб адзначыць юбілей Я. Коласа і, зразумела, павінна было імкнуцца выдаць тэхнічна кніжку добра, а сапраўды вышла кніжка з гэтага боку няўдалая. Шрыфт у кніжцы няроўны, сьляпы і зьбіты. Портрэт юбіляра зьмешчаны не на месцы. Вокладка па замыслу ня кепская, але фарбы кепскаватыя. Трэба Выдавецтву зьвярнуць увагу на тэхніку выданьня кніг, каб унікнуць саматужніцтва. Таксама вельмі дзіўным здаецца і тое, што на вокладцы напісана, што кніжка выдана 1926 г., а яна толькі пасьпела выйсьці ў 1927 годзе.

**П. Жарскі.**

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**Траульку Ўладз.** Што такое вы, дзядзька, пішаце: І тут сяляне яны без права на гэта не паднялася рука паснулі ўсе гэта на сьвеце будзе й судзем далей адчуваць то мне прышлося не без крыўды такі без складны верш пісаць"? Кропкі хоць трэба было расставіць, а то нічога ніхто не зразумее. І такія радкі ніколі не называюцца ні вершамі, ні прозай.

Ваш ліст таксама цікавы: „прашу рэдакцыю залічыць мяне нямедленна ў паэты. Вышліце ганарар". Але не адзін вы зьвяртаецеся ў нашу рэдакцыю з гэткімі просьбамі—шмат такіх. Шкода вас усіх: няма ў Саюзе ССР такой установы, каб залічалі ў паэты і мы ня можам дапамагчы ў гэтай справе. А вось парада:—выкіньце з галавы жаданьне пісаць вершы, не марнуйце дарма часу. Друкаваць ня будзем.

**Яз. Малюкевічу.** „Зачараваны скарб" задуманы добра і тэма своечасная, але слаба апраўдан. Ня друкуем.

**Ул. Парашкову.** Вершы да друку не падаюцца. Старанней вучэце беларускую мову.

**А. Гарбатоўскаму.** На вошта нам здаліся старыя капліцы—няхай асьпеўваюць іх тыя, каму яны мілыя. Зьвярнеце ўвагу на чыстату свае мовы. Прысылайце яшчэ.

**Б. Макаўцу.** Здольнасьцяй да пісаньня вершу Вы ня маеце. „Сьлёзы страты" нельга назваць вершам, ды й сэнсу ў ім цяжка дайсьці:

„Я змываю рукі
Мыла мае трамчыць(?)
Белыя рукі мае дрыжаць.
Німашака гора
Як было ўпярод".

Вось пачатак Вашага твору. Гэткіх рэчаў мы ня друкуем.

**М. Бабуку.** Вы пішаце:

„Як я вас люблю
Проста сказаць не магу.
Шурачка, мілая мая,
Пачакай ты мяне.

Да рэвалюцыі такія „сьцішкі" вельмі падабаліся фальварковым паненкам, якія для іх заводзілі спэцыяльныя альбомы. У друку яны ніколі не зьяўляліся. Мы вельмі спачуваем Вам—сур'ёзна „завлекліся" вы „і бяз яе жыць ня можаце", але „завлечэньне не дае яшчэ права пасылаць такія рэчы нам у рэдакцыю.

**Ц. Конанаву.** І вы удасканальваецеся ў „альбомных сьцішках":

„Мілая, пашчады я жду ад цябе
Няўжэлі пакінеш мяне
Няўжэлі ты зьменіла мне
І ня хочаш узнаць аба мне".

Просім „пошчады": Збаўце нас ад такіх рэчаў.

**В. Плюгачову** „Маня, Маня, дазволь цябе ў вершах апісаць!"

Але Маня разумная дзяўчына, яна ня хоча слухаць „альбомных сьцішкоў", у якіх „я вобраз раздув е сэрца жар", яна кажа:

„Ды кінь, ты Янка—сорам
Камсамольцу быць такім
Давай лепш пагаворым
Што такое Кім".

І чаму было не паслухацца—да сэнсу казала дзяўчына. Што, ня вытрымалі? А мы згодны з Маней—ня друкуем.

Прысылайце другія з іншым зьместам і больш старонна апрацованыя.

**Аўсею Кагану.** Здольнасьці выкладаць на пісьме свае думкі Вы маеце. Шкада толькі, што Вы малапісьменны. Скарыстоўвайце вольны час для навукі. Пішэце нам допісы аб жыцьці на вашым заводзе. Вершы Вашы ўстрымваемся друкаваць.

**Балеславу Макоўскаму:** Вершаў пісаных па расійску ня друкуем.

С. Баранаву, Ул. Матусэвічу, Аламу Хурсіку, Сьцяп. Шчырку, Анд. Шыбку, Мік. Рошчыну, Наумчыку, Ар. Чарнушэвічу, Ул. Матрунчыку, Авт. Дзічкоўскаму, Ал. Кулакоўскаму, П. Рудкевічу, Ул. Размысловічу, А. Аўстрэйку, Вяскоўму, П. Круку, Рымашэўскаму, К. Тоўсьціку, Н. Крывіцкаму, Ян. Кірыльчыку, Роткевічу, М. Варанецкаму, М. Блошкіну, Пракаповічу, Ів. Булату—да друку не падыходзіць.

Галоўлітбел № 24693.

Адказны рэдактар Р. Шукевіч-Трацьцякоў.